# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 46 (308) 22 — 28 лістапада 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ


TV Усе каналы!

Вы прачыталі ліст. Мы чакаем ад Вас лістоў. Пра іншыя "нашы праблемы" чытайце на стар. 2—3.

### *Добры дзень, "Культура"!*

*Звяртаецца да цябе твая пастаянная чытачка Леанарда Валовіч. Шмат вады сцякло з тае пары, калі я пісала табе ў апошні раз.*

*Але я часта ўзгадваю цябе як добрага сябра і дарадчыка. Калі можна, раскажу троху пра сябе. Я ўжо пісала, што ў нас адбылося скарачэнне. Вось ужо шмат часу я працую на палову стаўкі: чацвер, пятніца з 18 да 21 гадзіны; субота, нядзеля з 12 да 15 і з 20 да 24 гадзін. Але працаваць даводзіцца, у асноўным, у суботу і нядзелю, бо ў гэтыя дні наладжваюцца дыскатэкі. Ведаеце, працай я задаволена. Цяпер я магу больш часу аддаваць сям'і, дзецям, хаце, гаспадарцы. Што яшчэ патрэбна жанчыне? Быццам бы, усё ў мяне добра, дзеці разумныя, любімая праца. Але штосьці не дае мне спакою, нібыта падточвае з сярэдзіны. Што такое нашае жыццё? Як яно ўсталёўваецца: само па сабе альбо мы сабе яго наладжваем? Таму хачу падзяліцца набалелым.*

*... Гадоў з пяць таму ў нас узнікла спрэчка з маім шваграм. Ён абураўся і крычаў:*

*— Упершыню бачу, каб загадчыца клуба ўдзень хадзіла на працу.*

*Я спрабавала давесці:*

*— Гэта мой працоўны час і я абавязана прытрымлівацца свайго раскладу.*

*Ён жа настойваў: — Хто ж пойдзе ў клуб удзень?*

*Я адказвала: — Магчыма, ніхто і не прыйдзе, але затое я спакойна параблю ўсе свае справы: напішу план працы клуба, гурткоў, папрацую над сцэнарыямі, падбяру і прагляджу адпаведную літаратуру, перыядычны друк. Хіба мала ў клубе працы?*

*Але швагер не супакойваўся:*

*— А што, хіба вечароў табе нестае?*

*— У вячэрні час прыходзяць наведнікі, вядуцца заняткі гурткоў. Я павінна сустракацца з людзьмі, а не сядзець у сваім кабінеце.*

*— Колькі разоў я быў у клубах, і не толькі ў нашай вобласці, і паўсюль адно і тое ж: нічога, акрамя замкоў на дзвярах удзень я не бачыў.*

*— І вельмі шкада. Значыць, нічога не варты той работнік культуры, які не выконвае сваіх абавязкаў, не ведае, што такое працоўная дысцыпліна. Таму і "кульгае" наша культура на абедзве нагі, бо няма моцнай дысцыпліны...*

*Але ўсё ж такі, бадай, варта задумацца, які тып клубнага работніка культуры нам патрэбны.*

*І тып: Сядзіць на працы, як кажуць, ад званка да званка. Не адыходзіць з працы па асабістых справах без дазволу кіраўніцтва. Піша ўсё акуратна, плануе, складае паперы, дбайны (на паперы, безумоўна). Фармальна ў яго ўсё добра, гладка, не прычэпішся. Кіраўніцтва такіх шануе, ухваляе, нават у прыклад ставіць.*

*ІІ тып: Халерыкі ад культуры. Гэтым не сядзіцца на месцы. Яны шукаюць, выбіваюць, дамагаюцца. Ці то музычныя інструменты, ці то будаўнічыя матэрыялы. Ходзяць па хатах, шукаюць патэнцыйных удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, майстроў народных рамёстваў, запрашаюць у клуб. Такія людзі шукаюць новыя шляхі, новыя падыходы, імкнуцца адрадзіць добрае, але забытае. Тэлефануюць кіраўніцтву, надакучваючы яму. І тое ім патрэбна, і іншае, — безліч праблемаў. Яны наладжваюць мерапрыемствы, арганізоўваюць вольны час людзей і ў пераважнай большасці застаюцца незадаволенымі: нешта не так атрымалася, як планавалася. Карацей, б'юцца, нібыта рыба аб лёд. А як вы мяркуеце, ці задаволенае кіраўніцтва такімі падначаленымі? Не, не вельмі — з імі зашмат клопатаў і праблем.*

*ІІІ тып: Гэта тыя, хто ўвогуле не звяртае на працу аніякай увагі. Пажадаў — прыйшоў, пасядзеў у клубе, не пажадаў — не прыйшоў... А прыедзе кантралёр, дык яго своечасова папярэдзяць, і ён з'явіцца на працу. А не знойдуць такога загадчыка на працы, — дык і гэта не бяда: выкручуся як-небудзь. І знойдзе паважную прычыну сваёй адсутнасці. А потым, ёсць яшчэ "шырокія плечы", якія абароняць, калі што-небудзь здарыцца...*

*Ці карысны такі тып работніка? Зразумела, не. Але паспрабуй закрануць яго, папракнуць кепскім стаўленнем да сваіх абавязкаў. Ён так цябе аблае, што ты пашкадуеш аб пачатай гутарцы.*

*Вось хай кіраўніцтва нашае і паразважае над пытаннямі: які тып работніка яму патрэбны, чым заняты клубны работнік у працоўны час?*

*Што да мяне, дык я, мяркую, магу прылічыць сябе да ІІ тыпу. Кручуся-вярчуся, дамагаюся, спрабую... Ніякай удзячнасці, аднак, не бачу, акрамя кпінаў і непрыемнасцяў. Але я не скарджуся: такое ўжо жыццё нашае... Супакойваю сябе тым, што мне, прынамсі, не сорамна атрымліваць свой зароблены рубель...*

*З павагай*
*Леанарда ВАЛОВІЧ*
*в. Задвор'е, Зэльвенскі раён*

# МНЕ НЕ СОРАМНА АТРЫМЛІВАЦЬ ЗАРОБЛЕНЫ РУБЕЛЬ...



У калажы выкарыстаны фрагменты твораў М.Кірэева і Л.Шчамялёва.

НАШЫ ПРАБЛЕМЫ




Гадоў дзесяць таму аўтар гэтых радкоў, збіраючы грыбы, "напаролася" на карціну, якая, бадай, вартая толькі гогалеўскага пяра: у лагчынцы, атуленай хмызняком і алешынамі, грузілі ў "легкавушку" самагонны апарат, які, мусіць, добра адпрацаваў ноччу: паўсюль стаялі бідоны, валяліся бутэлькі, яшчэ пустыя, а пад алешынай работнікі, мабыць, ужо перад самай адпраўкай, смакавалі пяршак. Але не тое, як ускочылі яны пры з'яўленні чужога чалавека, як замітусіліся, стараючыся хаця б сваімі грэшнымі, хісткімі целамі захіліць апарат, — не, не гэта ўразіла найболей. Уразіла тое, што гэта было амаль усё саўгаснае начальства на чале з участковым, які не так даўно аштрафаваў на вялікую суму нашага суседа, што ў п'яным бяспамяцтве ледзь не спаліў кароўнік.

Разгледзеўшы мяне, яны трохі супакоіліся, і я добра ведала, чаму — сярод родзічаў, да якіх я прыязджала ўлетку, адзін быў пастаянным "кліентам" участковага, як і сусед. Скажы я дзе неасцярожнае слова, нясоладка прыйдзецца хлопцу-вартаўніку таго самага кароўніка, бо яго не раз выцягвалі ўранку з-пад бліжэйшай каровы, асабліва ў зімнія ночы, і адпраўлялі дадому праспацца і ацверазець. Тыя, хто быў наверсе, пілі таксама, але розніца паміж ім і начальствам была вельмі істотная: ён піць "не ўмеў", да таго ж, не меў магутнага стрымальнага фактару — партыйнага білета, адняўшы які, чалавеку маглі паламаць усё — лёс, будучыню, сям'ю. А што маглі зрабіць з ім? Выгнаць з калгаса? Але рабочых рук там як не хапала тады, так не хапае і зараз. І ўсё ж я нікому не сказала пра тую сустрэчу, бо замучыць штрафамі майго родзіча маглі — а ў яго былі жонка і дзіця.

Час ідзе, і на прыкладзе нават адной вёскі бачна, у якім накірунку рухаецца грамадства. Ужо тады акадэмік Амосаў пісаў, што алкагалізм пачынае, як рак вантробы, бязлітасна "раз'ядаць краіну". Мы паціху страчвалі меру ў ацэнцы сапраўдных маштабаў бяды. Памятаецца, як у час абмеркавання экранізацыі рамана "Чужая бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль рабіў заўвагу рэжысёру Рыбараву:

— У вашым фільме двое мужчын сядзяць у карчме, і між імі стаіць амаль выпітая бутэлька. Але ў нас, у Заходняй Беларусі, калі збіраліся штосьці адзначыць, то звычайнай "дозай" была адна бутэлька прыкладна на дзесяць мужчын...

Нас гэта тады ўразіла, бо і рэжысёр, і сцэнарыст, хаця і вельмі імкнуліся да ўзнаўлення "той" рэальнасці, усё ж падсвядома кіраваліся гэтаю... Але і той, такі як быццам ужо п'яны час, усё ж далёка адстае ад нашага сённяшняга. Як быццам паскараецца наш рух у бездань...

Вяртаюся да размовы пра вёску.

... Прайшло дзесяць гадоў. Дырэктар калгаса даўно кіруе ў раёне, праўда, моцна хварэе на печань. Участковы пайшоў на пенсію і хутка памёр. Два алкаголікі, пра якіх гаварылася вышэй, працуюць там жа — адзін электрык, другі вартаўнік. Толькі вось некалі маладыя іх твары набылі барвова-сіняе адценне і сталі таго вызначальнага для любога неспецыяліста выгляду, які яшчэ здаля гаворыць, што ягоны ўладальнік даўно і непрасыхальна "закладае за каўнер". Адна з даярак трапна адзначыла, што твары ў іх "каравыя".

Але калі дзесяць гадоў таму толькі гэтыя двое былі ва ўсіх навідавоку як п'яніцы, то цяпер гэта не здзіўляе нікога. П'е паштальён і звеннявыя, п'юць — праз аднаго — мужчыны-калгаснікі, п'е прыезджы дырэктар школы; бывала, што, упіўшыся, даяркі забываліся падаіць кароў, і брыгадзір бегаў па вёсцы, аб'явіўшы своеасаблівы аўрал, і выганяў у кароўнік даярчыных дачок, каб не давялося штрафаваць маці, многія з якіх — таксама прыезджыя.

Ён добра ведаў — штраф не стрымае. Будуць горка каяцца, прасіцца-маліцца, але потым, у нейкі няўрочны час, калі — "душа запатрабуе", недзе знойдуць бутэльку самагонкі (часцей гэта поліэтыленавы двухлітровы балон з-пад "фанты"), і тады, рыкай не рыкай нядоеныя каровы, — будзе гучаць з-пад возера бязладнае: "Ты скажи, ты скажи, чё те надо, чё те надо, может, дам, чё ты хошь, чё ты хошь", а дочкі, падаіўшы кароў, будуць цягнуць дадому развясёлых маці, а пасля адпойваць іх расолам.

... Я памятаю гэтую вёску строгай і суровай да розных праяў амаральнасці. Не дай Бог хто падлабуньваўся да чужой жонкі — яму не прайсці было па вуліцы — засмяюць. Адыходзячы з хаты, ніколі не вешалі замкоў — няма каму красці. Ідучы з поля, бабы спявалі так, што, здавалася, усё навокал ажно гудзела ад народных песняў — то жартоўных, то чуллівых, то трагічных. Гаварылі моваю арганічнай, чыстай, як вада ў возеры, і гэта была сапраўдная беларуская, прыгожая мова.

Тыя бабкі цяпер, бывае, прыязджаюць ад дзяцей у свае хаты на лета і сядзяць са сваімі нязменнымі кійкамі, паклаўшы спрацаваныя рукі на калені. Адна з іх сказала мне ціха, калі я абуралася тым, што не корміць ейная суседка сваё дзіця, і яно крадзе ў бабкі апошні кавалак хлеба:

— Гляджу навокал і думаю: гэта ж не мая вёска, дзе я нарадзілася і век пражыла. Гэта ж — апраметная... Я, бывала, слухалася свякроўкі, як Бога. А гэтыя — не слухаюць ні нас, старых, ні Бога...

А хто, сапраўды, для прыезджай маладзіцы, гэтая старая — некалі лепшая жняя, а потым даярка, якая ездзіла на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскву? Моцныя некалі традыцыі разбураныя, бо вёска паступова вымірае. Лепшыя ейныя сілы кіруюць у горад, і нічым не спыніць гэты працэс, хіба што паляпшэннем умоў яе існавання, а паляпшэння якраз і не прадбачыцца.

Аднак жа пілі і ў тыя часы, калі жыццё было адносна сытым. Пілі рабочыя, інтэлігенцыя (вядома, не так, як аб гэтым распісвалася паўсюдна). Пры

## Правінцыйныя назіранні

# АДЗІНАЦЦАЦЬ СТАГОДДЗЯЎ ЭВАЛЮЦЫІ БЕСЧАЛАВЕЧНАСЦІ

... Аўтобус вяртаўся ў Горад. Стаяла позняя восень, была нядзеля, аўтобус быў апошні, вячэрні, але напаўпусты, бо грыбы ўжо скончыліся, і непаседы-грыбнікі ў яго больш не набіваліся на кожным прыстанку. На маршруце ён пазбіраў па вёсках нешматлікіх гараджан у першым ці другім пакаленні, тых, хто яшчэ не страціў сувязі з зямлёю і на выходныя ездзяць да бацькоў, да бабулі ці дзядулі, дапамагчы ў гаспадарцы ды і самім падхарчавацца, дабраць прадуктовых прыпасаў. Нарэшце за пару кіламетраў ад Горада аўтобус прыпыніўся ля дачнага пасёлка, аднаго з новых, вялікіх. Адразу цішы і спакою як не бывала. Энергічныя дачнікі, настаяўшыся на вятры ды мжаўцы, падганяючы адно аднаго, пасыпаліся ў салон з заплечнікамі, каляскамі, скруткамі. Бадзёрая маленькая бабулька ўладкавалася з краю на сядзенні, задаволеная, што можа трохі пакарыстацца з камфорту. На калені паставіла вялікі букет каляных рознакаляровых восеньскіх кветак, трымала яго дзвюма рукамі. Праз натоўп упарта праштурхоўвалася кандуктарка —добра апранутая маладая жанчына з моднай фрызурай і строгім тварам. Падышла да кожнага, да бабулькі таксама. Тая з гатоўнасцю, нават весела, паказала праязны.

— Да гэтага праязнога яшчэ пенсійнае пасведчанне трэба паказваць, — пахмурна прамовіла кандуктарка.

— Добра, — па-ранейшаму бадзёра адказала бабулька і адвярнулася ў іншы бок.

— Ну, я чакаю пасведчання! Альбо аплочвайце праезд! — кандуктарка была вельмі сур'ёзнай.

— Божухна, ды яго і няма ў мяне з сабой. І грошай не ўзяла... — разгубілася бабулька. Потым устала з сядзення і пакрочыла ў другі канец салона. "Пятровіч, ці ёсць у цябе грошы?"

Пятровіч — стары каржакаваты дзядзюк, у бясформенным капелюшы, празнаўшы, у чым справа, абурана загаманіў моцным яшчэ, "камандным" галасам. Кандуктарка настойвала на сваім, і ў дзядзькі праверыла дакументы — гэта аказалася пасведчанне ўдзельніка вайны, што дае права на бясплатны праезд. Аднак грошай у Пятровіча таксама не было. Кандуктарка скамандавала шафёру прыпыніцца. Адразу залямантавалі пасажыры: "І так спазняемся, паехалі!", "Навошта наогул гэтых дачнікаў браць, ім тут два крокі пешам!", "Няхай на ровarах ездзяць, карысней для здароўя!"

— Плаціце ці выходзьце! Альбо паклічу міліцыю, — прыгразіла кандуктарка.

— А ну, кліч, — са смехам адазваўся Пятровіч. Маўляў, дзе ты тут, сярод лесу, знойдзеш тую міліцыю! І цыкнуў на бабульку: "Не выходзь!"

Кандуктарка сігануда ў адчыненыя дзверы, пасажыры заінтрыгавана прыціхлі. Тая хутка вярнулася, за ёй у салон нетаропка ўвайшоў высачэзны міліцыянер у фуражцы і плашч-накідцы. Аказалася, недалёка аўтакран збіў равarыста, міліцыя стаяла тут, відаць, яшчэ калі аўтобус ехаў з Горада, кандуктарка гэта і запрыкмеціла. Міліцыянер суха загадаў "парушальнікам" аслабаніць салон, тыя, спалоханыя, паслухмяна крочылі да выйсця. Нейкі хлопец, што стаяў недалёка, спознена прапанаваў: "Дазвольце, я за вас заплачу!" Пятровіч гнеўна адмовіўся: "Не, дзякуй, мы пойдзем пешам, калі так!" Яны цяжка спусціліся на зямлю. Следам, не развітаўшыся, выйшаў міліцыянер. Скрыпнулі дзверы, аўтобус трохі пастаяў, у святле фар паказаліся дзве постаці. Бабулька прыгнулася да свайго сябра, трымала яго за руку. Кветкі тырчэлі ўбок, ніякавата, нядбайна. Пятровіч імкнуўся трымацца роўна, крочыў шырока, бабулька ледзьве паспявала за ім...

Нарэшце аўтобус ірвануў з месца, святло фар скочыла ўперад, спаткнулася на распластаным на абочыне, накрытым з галавой целе. Вялікія рукі з-пад брызенту ўшчаперыліся ў пясок, побач валяўся ровар, торба з капуснымі качанамі, капуснае лісце. Міліцэйскі газік і грувасткі аўтакран-забойца стаялі трохі далей...

У аўтобусе была цішыня. Кандуктарка ўселася на сваё месца ля кабіны шафёра, сціснуўшы вусны, з выклікам глянула ў салон. Згасіла святло. У цемры за вокнамі праступілі першыя прыгарадныя будынкі. Недзе ўбаку няясна азначыліся крыжы і купалы манастыра, заснаванага яшчэ Святой Еўфрасінняй. У гэтым горадзе людзі жывуць ужо больш за адзінаццаць стагоддзяў...

**Станіслаў ПАЛАТА**

*Маршрут: Полацк—Сяляўшчына—Полацк*

Брэжневе, часы якога ўспамінаюць ледзь не як залатыя, п'янства, здаецца, дасягнула свайго апагея. І гэта было не выпадкова: у часы, калі губляецца вялікі, вышынны сэнс існавання, чалавек застаецца сам-насам з сабою, а гэта вытрымаць можа не кожны. Марына Уладзі ў кнізе "Уладзімір, альбо Перарваны палёт" добра апісала ўнутранае супрацьўленне і адчай выдатнага акцёра і паэта, які не змог вытрымаць пастаяннага фальшу, несупадзення паміж словамі і тым, што адбывалася на самой справе навокал яго.

На мой погляд, чалавек мае некалькі ступеняў "абароны" ад унутранага хаосу і вечнага страху смерці і небыцця. Першыя тры з іх высока-духоўныя — Бог, Радзіма, Сям'я. А потым — дабрабыт, кар'ера, наіўная спроба за рэчамі, за іх вечным кругаваротам-набыццём схаваць свае няўдачы і няспраўджаныя надзеі.

Калі ўглядзецца ў сённяшняе жыццё — ці "працуюць" на нас гэтыя самыя першыя і важныя ступені "абароны", мы можам смела сцвярджаць, што для вялікай часткі грамадства гэтыя каштоўнасці не маюць сапраўднага значэння. І, можа, сказаўшы сабе гэтую хаця і горкую, але такую патрэбную ісціну, мы зможам нешта рабіць са сваім жыццём, а значыць, і з тым, што акружае нас.

Аднак увесь свет жыве па іншых законах, і глыбіня сучаснага чалавека — гэта ўвесь шматтысячагадовы вопыт продкаў, з іх традыцыямі і мовай, свет хрысціянскай культуры, а таксама свет той маралі, якая выхоўвалася ў жорсткай барацьбе з сіламі хаосу і зла. І найбольш моцная — гэта нацыянальная ідэя. Яна, і толькі яна, здольная аб'яднаць усіх на грунце дабрыні і справядлівасці, даўніх традыцый. Балгарская прарочыца Ванга сцвярджала, што па-сапраўднаму лечаць толькі зёлкі, што растуць на роднай зямлі. "Маці-Зямля жывая, не плюй у раку, у калодзеж, не апаганьвай ваду і паветра", — вучыў яшчэ Зараастр, пачынальнік авестыйскай традыцыі. Можна ўзгадваць многае, без чаго жыве сучасны чалавек і што ён адрынуў.

Беспрабуднае п'янства, страта сябе як боскага стварэння — ці не страшная плата за ўсё гэта?

Увосень я зноў ездзіла ў "сваю" вёску. На аўтобусным прыпынку, куды я падышла, стаяў адзін са знаёмых. Стаяў, хістаючыся, і з кішэні яго вытыркалася ўсё тая ж, нязменная, бутэлька, якая, здаецца, не пакідала яго ніколі.

— А дзе твая жонка? — запыталася я ў яго пасля таго, як мы павіталіся (ён парукаўся, знарок моцна ціснучы руку, як бы даказваючы мне і сабе, што ён моцны, але рука была вялая і слабая, як і сам ён, увесь патрэпаны і нейкі рыхлы, як кінуты назад у дзяжу кавалак няўдалага цеста).

— Збегла. І сына з сабой прыхапіла. А я без яго не магу...

Ён заплакаў п'янымі слязьмі.

— Пайду да ўчастковага. Хай знойдзе іх...

Але ўчастковы і сам спяшаўся да нас. А побач з ім была паштарка, якая галасіла, паказваючы на майго былога аднакласніка:

— Гэта ж ён, зладзюга, болей няма каму! Я паклала сумку ў хаце, сама пайшла на гарод, а ён шусь у хату! А пасля кажа: "Ты ж не падумай чаго на мяне, калі што якое..." А на каго ж думаць, калі два мільёны чужых пенсій з сумкі ляснуліся?!

— Браў? — коратка запытаў міліцыянер.

— Не!

Але вопытны ўчастковы, ні слова болей не кажучы, лоўка залез у нагрудную кішэню злаўмысніка і дастаў адтуль жмут грошай.

— Зарплату ты не атрымліваў, бо пайшла на штрафы, —канстатаваў ён. Вінаваты маўчаў.

— Колькі ўжо прапіў?

Разам з паштаркай міліцыянер пералічыў грошы. Не хапала тысяч дзвесце.

— Заплаціш з наступнай зарплаты, я скажу ў бухгалтэрыі, каб вылічылі, — гэтак жа коратка сказаў ён і хуценька ісці сабе назад.

— У вас тут, я гляджу, добра. І пратакол не складаюць, — сказаў адзін з тых, хто стаяў на прыпынку (мабыць, таксама госць).

— Калі я на такіх буду складаць пратаколы, дык хутка тут у вёсцы паловы не будзе, а "там" сядзяць не за такую дробязь, — непрыязна адказаў участковы.

Я маўчала. Казаць аб тым, што парушаліся правы чалавека і што пры вобыску павінны быць панятыя, здавалася тут асабліва недарэчным. Для разумення сваіх правоў трэба разумець і свае абавязкі, сваё месца ў грамадстве. Пакуль жа... Развязка сітуацыі была амаль аптымальнай. Рабаўніцтва пенсій магло быць кваліфікавана як крадзёж дзяржаўнай маёмасці, і загрымеў бы чалавек у турму, і доўга выбіраўся б адтуль, калі б урэшце выбраўся.

— Ці разумееш ты хаця, што магло з табой быць?

Ён не хацеў (ці не мог) слухаць.

Дык ці не час вяртацца да тых "якараў", якімі тысячагоддзямі ўтрымлівалася чалавецтва? Да сапраўдных, глыбінных вытокаў?

Дзе ёсць Бог і Радзіма — адзіная, непаўторная на зямлі, як непаўторная яе мова і культура — нікім і ніколі...

**Вольга ІПАТАВА**

# ГРУЗ З НЬЮПОРТА



*Марсія і Майкл Доўл у гематалагічным цэнтры ў Мінску.*

*Паспрабуй сёння дастукацца са сваім клопатам-бядою да іншых, паспрабуй прабіцца праз усе перашкоды, якімі перакрыта душа чалавека XX стагоддзя! Аднак, што гэта ўсё ж такі магчыма і што наша чарнобыльская бяда не чужая ў свеце, можна было пераканацца, наведаўшы вечарыну-сустрэчу, што адбылася ў верасні ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Менавіта сюды сабраліся хлопчыкі і дзяўчынкі з Гомельскай вобласці, якія выязджалі на аздараўленне ў замежжа. Завіталі сюды і іх сябры з англьскага горада Ньюпорта, які вось ужо на працягу сямі гадоў гасцінна прымае беларускіх дзяцей падчас летніх вакацый. Прыехалі ангельцы на Беларусь з дабрачыннай місіяй: прывезлі гуманітарную дапамогу для дзяцей Рэчыцкага інтэрната, для тых, каму найбольш сёння патрэбна матэрыяльная падтрымка, а найперш — лекі, якія і везлі да нас нашы сябры з Ньюпорта. Але пра гэта гаворка пазней...*

*Пакуль жа ў актавай зале гуманітарнага ліцэя — радасныя воклічы, цёплыя ўсмешкі, усхваляваная гучаць ангельская і беларуская мовы. Вядучая вечара Людміла Дзіцэвіч надзвычай эмацыянальна распавядае пра сёлетнюю паездку нашых дзяцей у Ньюпорт, ёй дапамагае перакладчыца Людміла Івановіч, дарэчы яна віртуозна валодае беларускай і ангельскай мовамі, што адразу ж задае нязмушаны тон усёй вечарыне. Вядучая запрашае на сцэну выступоўцаў: цёплыя словы ўдзячнасці прамаўляе Марыя Міцкевіч — старшыня фонду "Сакавік", а рэшце гучыць зымправізаваны дзіцячы канцэрт, балазе талентаў нашым дзецям, як вядома, не займаць. Пасля выступленняў Марсіі Доўл і Джоан Джэпс з графства Уэльскага доўга не сціхалі воплескі, а разам і словы ўдзячнай аўдыторыі: "Вялікі дзякуй, Thank you very much". Калі ж нарэшце прысутныя разбіліся на купкі і ў кожнай завязалася свая гаворка, я падышла да Марсіі Доўл і папрасіла падзяліцца ўражаннямі ад паездкі.*

**— Як вы дабіраліся да нас з гуманітарнай дапамогай з Валіі?**

— Шлях быў няпросты. Спачатку нам давялося праехаць праз усю Англію, пасля паромам даплылі да Бельгіі, далей Германія і нарэшце — Польшча.

**— Што адметнае было ў вашым падарожжы?**

— Нічога, апрача хіба таго, што на мяжы Польшчы і Беларусі мытнікі затрымалі адну машыну гуманітарнай дапамогі і не прапусцілі далей.

**— Як яны вам гэта растлумачылі?**

— Ніякіх тлумачэнняў не далі, у машыне былі лекі і харчаванне для немаўлят. На наш погляд, гэта ў першую чаргу патрэбна вашым дзецям з Рэчыцы, але нам удалося правезці праз мытню толькі тры машыны.

**— Сёння даволі складана давезці гуманітарную дапамогу да Беларусі...**

— Нам дапамагло ў гэтым Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, Марыя Міцкевіч паспрыяла ў афармленні дакументаў, дарэчы, без яе ўдзелу мы б не змаглі нагогул нічога зрабіць.

**— Ньюпорт вось ужо сем гадоў прымае нашых беларускіх дзяцей. Я і мае суайчыннікі ўдзячныя вам, бо захаваць здароўе нашых дзяцей пасля Чарнобыля — самае надзённае.**

— Мы добра разумеем вашу бяду і стараемся дапамагаць як толькі можам. Пры пэўных умовах мы зробім яшчэ больш. У 1990 годзе да нас прыехалі 14 дзяцей з Гомельскай вобласці, з імі мы падтрымліваем кантакты і цяпер.

**— Раскажыце крыху пра сябе, пра сваю сям'ю.**

— Мой муж Майкл прысутнічае на гэтым вечары, мы прыехалі разам. Пяць гадоў таму нас напаткала вялікае гора: памёр наш 19-гадовы сын, літаральна праз тры дні пасля гэтай трагедыі мы з Майклам усынавілі трох дзяцей, праз некаторы час яшчэ чатырох. Зараз у нас 14 прыёмных дзяцей і ўнукаў. І ўсё гэта зыходзіла ад мужа. Майкл незвычайны чалавек, і я нават уявіць сябе без яго не магу.

*...Майкл у гэты час стаяў непадалёк ад нас і, размаўляючы са сваім знаёмым, занепакоена паглядаў на сваю прыгожую нейкай асаблівай "суровай" прыгажосцю жонку. Чамусьці акурат у гэты момант перада мной прыадкрылася, якая глыбінная непарыўная сувязь існуе паміж гэтымі людзьмі, што гэта Яе Вялікасць Любоў аб'ядноўвае іх. Тая Любоў, якая даецца і Мужчыну і Жанчыне Богам, і нараджаецца ў жыцці не так ужо і часта, як і сапраўдны талент. Вялікае пачуццё, не выдуманае, "папяровае", што ў раманах і ў вершах, а Сапраўднае, Жывое, Зямное, калі ў гэтым дуэце — Мужчына і Жанчына — кожны мае свой Богам дадзены голас, кожны выконвае сваё прызначэнне: першы — зберагаць, апекаваць і адказваць за Яе, другая — суцяшаць і несці веру ў Бога і ў свайго апекуна праз усё жыццё. А да гэтага далучайся, дакладней, нават дамінаваў над усім вялікі боль іх Страты. І ўжо нечакана для сябе самой, разумеючы, што гэтага рабіць зусім не трэба і яшчэ вагаючыся на мяжы дазволенага:*

**— Прабачце, Марсія, ад чаго памёр ваш сын?**

*Вочы яе — суцэльны боль. Марсія гаворыць, гаворыць вочы, жанчына выказвае жанчыне запаветнае — і, о цуд!, я, не ведаючы ангельскай мовы, рапатам разумею Марсію, разумею ўсё, што яна мне сказала, таму на разгубленае пытанне Людмілы, што перакладала нашу гаворку: "Здаецца, вы ўсё зразумелі?" — адказваю сцвярджальна. Марсія праз хвіліну дадае, спахапіўшыся: не для газеты, калі ласка, не пішыце пра гэта.*

*Я абяцала выканаць просьбу.*

*І ўжо на развітанне, шукаючы вачыма мужа:*

— Адзінае, пра што мы шкадуем з Майклам, што ніколі не зможам абняць свайго сына...

*...Калі мы разам з Лёшкам выйшлі з ліцэя ў дажджлівую цемрадзь вечара і спусціліся каля Купалаўскага тэатра ў метро, я заўважыла, што мацней як заўсёды трымаю сына за руку.*

**Алена РЫГОРАВА**



*Майкл і Марсія з дзецьмі з Рэчыцкай школы-інтэрната падчас адпачынку ў Англіі.*

# ЦІ СТАНЕ МАЯ КРАІНА КРАІНАЙ ВАХЦЁРАЎ?

Штодня я хаджу абедаць у сталоўку Вялікага тэатра — у мяне ёсць туды пропуск, дзякуючы маёй працы і сябрам з аддзела рэкламы. Штодня адна і тая ж вахцёрка на ўваходзе строгім голасам мяне прыпыняе: "Хто гэта ідзе? У акулярах не пазнаю вас (ці "Без акуляраў не пазнаю вас"). Пакажыце пропуск!" — хаця пропуск я паказваю адразу з парога. Рытуал працягваецца амаль крыміналістычным даследаваннем дакумента. І што самае дзіўнае — пасля гэтага даследавання амаль заўсёды знаходзіцца новае строгае пытанне. Так, то да сталоўкі я даходжу са значна пагоршаным апетытам, але багатымі думкамі пра "феномен вахцёра", дакладней, "феномен саўковага вахцёра", бо ён, гэты вахцёр, цалкам непадобны да калегаў ва ўсім свеце. Я спаткаўся з вахцёрамі ў Варшаўскім Нацыянальным тэатры, цёхамі нашага, і яны па паўгадзіны абзванівалі толькі ім вядомыя мясціны, каб дапамагчы знайсці патрэбную мне асобу. Я піў духмяную каву ў пачакальнях замежных амбасадаў, куды заходзіў па справах, проста назваўшы імя, нават не паказваючы пасведчання. І толькі на ўваходзе да нашых, айчынных, устаноў мяне заўсёды сустракаюць суровыя, хмурыя, каменныя твары незагаворлівых і няўмольных "захавальнікаў парадку".

У чым ён, гэты "феномен вахцёра"? Здаецца, прафесія — не з катэгорыі прэстыжных: заробкі невялікія, справа марудная і цяжкая — паспрабуй шэсць, восем ці нават дванаццаць гадзін выседзець на крэсле, з якога не адысціся ні на абед, ні ў прыбіральню, ді яшчэ дзе-небудзь на скразняку. Можа, ад усіх гэтых выпрабаванняў і камянее твар, робяцца сталёвымі вочы і металічная гаворка нясе адбітак непрыхаванай пагарды да ўсіх, акрамя непасрэднага начальства? Ды не, ёсць у свеце шмат не менш цяжкіх работ. Справа, на маю думку, у іншым: улада! Як ні дзіўна, але ў вахцёра сапраўды ёсць улада над жывымі людзьмі. Улада прапусціць ці затрымаць, заўважыць спазненне ці не. Дакласці начальству ці не дакласці, дазволіць нешта не акрэсленае правіламі ўнутранага раскладу ці не дазволіць... Кажуць, свет трымаецца на трох кітах, імя ім: Каханне, Грошы і Улада. Менавіта гэты апошні, самы вялікі кіт і самы прывабны. Настолькі, што нават яго слабое, шматтысячаразовае паменшанае адлюстраванне, якое дае магчымасць "пушчаць" ці "не пушчаць", і стварае "феномен вахцёра". З-за гэтага тыя, хто на хвілінку спазняецца на працу ў "суперрэжымнае" прадпрыемства (дзе часам найвялікшая доблесць — гэта не рабіць карысную працу, а быць на працы хвіліна ў хвіліну), нясуць вахцёрам хабар цукеркамі ды бутэлькамі, каб тыя іх "не запісвалі", гэта значыць, не фіксавалі спазненне. З-за гэтага вельмі паважаныя, годныя людзі прыніжана тлумачаць нэўчыным вахцёрам, што ім патрэбна тое і тое, каб пачуць малапісьменныя выказванні, галоўны сэнс якіх "ты — дзярмо, а я — гаспадар". Вахцёр-адміністратар тэатра (з фантазіяй назваўшы сябе "камерцыйны дырэктар") кідае тэлефонную трубку — ведае, што ты ўсё роўна, суправаджаючы ў гэты тэатр нейкую службовую дэлегацыю, зноў звернешся да яго, не мінеш. Вахцёр-міліцыянер забараняе вашым гасцям фатаграфавацца на памяць непадалёк ад будынка Рэзідэнцыі Прэзідэнта. Чаму? "Ці вам не дастаткова распараджэння супрацоўніка міліцыі?" — адзінае грознае тлумачэнне...

Вядома ж, праца тых, хто сочыць за парадкам, — карысная і патрэбная. Але яна ніколі не падменіць сабой іншых, не менш карысных і патрэбных спраў. Цывілізаваны свет усё ж развіваецца намаганнямі тых, хто стварае, а не тых, хто за гэтым назірае. І магчыма, у маёй краіне яшчэ ёсць, куды расці. Таму я і не хачу, каб яна стала "краінай вахцёраў".

**Ігар КЛОКАЎ**

№ 46 22 — 28 лістапада 1997.



# ПЕЙЗАЖЫ "МУЗЫЧНАЙ ВОСЕНІ"

17 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная XXIV Міжнароднаму фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень". На пытанні журналістаў адказвалі мастацкі кіраўнік філармоніі Юрый Гільдзюк, дырэктар Дзяржаўнай філармоніі Уладзімір Ратабыльскі. Юрый Гільдзюк падрабязна азнаёміў прысутных з праграмай фестывалю, а яна надзіва багатая і разнастайная. У ёй — выступленні і канцэрты не толькі нашых выбітных артыстаў, але і знакамітых замежных: 24 лістапада слухачоў чакае сустрэча з калектывам сусветнай вядомасці Дзяржаўным струнным квартэтам імя Чурлёніса з Літвы, 25 лістапада — канцэрт народнай артысткі СССР Святланы Данілюк, 29 лістапада ў зале філармоніі выступае кларнетыст Анджэй Годэк з Польшчы. Яркай падзеяй у музычным жыцці Мінска станецца аўтарскі канцэрт аднаго з вядучых сучасных камазітараў з Санкт-Пецярбурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Барыса Ціщчанкі — вучня Шастаковіча, які канцэрт чакаецца 2 снежня. Акрамя таго, салісты, ансамблі, аркестравыя і мастацкія калектывы плануюць на працягу двух тыдняў выступленні ў абласных і раённых гарадах Беларусі. У межах фестывалю пройдзе дэкада беларускай камернай музыкі з удзелам Гомельскага камернага хору, ансамбля цымбалістак Віцебскай абласной філармоніі, саліста Брэсцкай філармоніі Аляксандра Пыліка (баян), ансамбля народнай музыкі "Баяры" з Магілёва.

Выступоўцы зазначылі таксама, што XXIV Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень", прысвечаны 60-годдзю філармоніі, апякуецца і падтрымліваецца Міністэрствам культуры. На прэс-канферэнцыі прагучалі словы ўдзячнасці кіраўнікоў філармоніі ў адрас міністра культуры Аляксандра Сасноўскага. Як зазначыў Юрый Гільдзюк: "Міністэрства — гэта нават не асноўны, а адзіны спонсар фестывалю".

**Алена РЫГОРАВА**

# ЗЯМЛЯ КАСТУСЯ ХАРАШЭВІЧА

***Асноўная тэма творчасці Кастуся Харашэвіча — прыгажосць роднай зямлі і ягонай "малой радзімы" — Маладзечаншчыны. У лепшых сваіх лірыка-эпічных пейзажах-карцінах ён умее знайсці высокую паэзію, напітаную ці то шчымлівым мінорным настроем, ці то сцвярджальным пафасам радасці жыцця.***



*К.Харашэвіч. "Лета ў Яхімаўшчыне". Пал. алей.*

Сувязь з глыбінным нацыянальным пачаткам — найважнейшая рыса, якая вылучае жывапіс Харашэвіча. Мастак імкнецца нібыта параўнаць з нашай няўтульнай сучаснасцю ўсю гісторыю свайго народа, увесь лад ягоных думак і пачуццяў, усю ягоную творчую натуру.

З музычнай прыродай палотнаў мастака звязаныя і сялянская прастадушнасць, і сардэчнасць, і далікатны каларыстычны артыстызм, і тая асаблівая выразнасць нацыянальнага гучання, якая бярэ свой пачатак у народнай песні і, нібыта водгук, яднае сваёй мелодыяй розныя часы і падзеі. Гэта і паўстанне нарачанскіх рыбакоў, і выступленне Б.Тарашкевіча перад сялянамі Заходняй Беларусі, і розныя паводле настрою пейзажныя матывы: гродзенскія вуліцы альбо браслаўскія азёры, купалаўская Вязынка ці ваколіцы Маладзечна, жывапісная Яхімаўшчына ці палеская пушча.

Некаторыя матывы выглядаюць нібыта сумны паэтычны напамін аб тым, якую дабрыню, харавство і чалавечнасць хаваюць у сабе спакойная блізкасць з прыродай, стан яснага, засяроджанага назірання. Такая паэтычная канцэпцыя Харашэвіча блізкая да спрадвечнага народнага жадання дасягнуць сардэчнай згоды са светам, з будзённасцю, з уласнай душою...

Хочацца спадзявацца, што юбілейная выстава жывапісу Кастуся Харашэвіча, якая адкрыецца 25 лістапада ў рэспубліканскім Палацы мастацтва, прынясе і ў нашы стомленыя душы светлы спакой і светлую радасць...

**Барыс КРЭПАК**

# СВЕТ "БІБЛІЯТЭЧНАГА СВЕТУ"

22 кастрычніка ў Нацыянальнай бібліятэцы адбылася прэзентацыя першага прафесійнага часопіса бібліятэкараў Беларусі — "Бібліятэчны свет", на якой прысутнічалі прадстаўнікі бібліятэчнай грамадскасці краіны, кіраўнікі і супрацоўнікі буйнейшых бібліятэк і інфармацыйных цэнтраў Расіі і замежных краін — удзельнікаў Міжнароднай канферэнцыі "Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы".

Заснавальнікам "Бібліятэчнага свету" з'яўляецца Беларуская бібліятэчная асацыяцыя (ББА), арганізаваная ў 1997 г. з мэтай стварэння аптымальных умоў развіцця бібліятэчнай справы. Выдае часопіс выдавецкае ТАА "Красіка-прынт".

На старонках часопіса чытачы могуць знайсці самыя разнастайныя матэрыялы: заканадаўчыя і інструкцыйна-метадычныя дакументы, кансультацыі спецыялістаў, артыкулы навуковага характару і з вопыту работы бібліятэк розных сістэм, публікацыі аб міжнародным супрацоўніцтве ў галіне інфармацыйна-бібліятэчнай дзейнасці і многае іншае.

У часопісе "Бібліятэчны свет" прадстаўлены матэрыялы, прысвечаныя даследаванню багатых традыцый беларускага кнігадрукавання, гісторыі бібліятэк, дзейнасць знакамітых прадстаўнікоў кніжнай культуры Беларусі, апісанню калекцый рэдкіх кніг і рукапісаў, праблемам захавання кніжнай спадчыны краіны. Шэраг артыкулаў апублікаваны да 480-годдзя выдання першай кнігі беларускім першадрукаром і асветнікам Францішкам Скарынам.

Асаблівая ўвага звяртаецца на матэрыялы, звязаныя з удасканаленнем інфармацыйных тэхналогій і прымяненнем сродкаў электронных камунікацый, уключэннем бібліятэк Беларусі ў міжнародную камп'ютэрную сетку Internet. Інфармацыйная служба Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі, якая знаходзіцца ў ЦНБ НАН Беларусі, у 1996 г. атрымала выхад у Internet і неабходнае абсталяванне за кошт гранта Фонду Еўразія. Асацыяцыя выдае ў сістэме WWW (World Wide Web) электронны часопіс "Веснік Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі" на рускай і англійскай мовах (дарэчы, гэта адзін з першых электронных часопісаў дадзенай тэматыкі сярод былых рэспублік СССР). У першыя выпускі часопіса ўвайшлі матэрыялы аб дзейнасці ББА, інфармацыя аб буйнейшых бібліятэках рэспублікі, артыкулы па гісторыі бібліятэчнай справы і кнігадрукавання Беларусі. Дзякуючы выкарыстанню гіпертэксту, чытачы з усіх куткоў свету могуць атрымліваць біяграфічныя звесткі аб выдатных прадстаўніках культуры, навукі, адукацыі і аб грамадскіх, дзяржаўных і царкоўных дзеячах Беларусі. Створана Web-старонка ББА.

**Наталля БЯРОЗКІНА, канд. гіст. навук, дырэктар Інфармацыйнай службы ББА, заг. аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі**

# УШАНАВАЛІ КОЛАСА Ў ТАЛЬЦЫ

У сённяшнім спазнанні творчасці беларускага народнага песняра Якуба Коласа асаблівае месца займае стаўбцоўская зямля. Яно і вядома: адтуль Колас родам, там — вытокі яго песеннай творчасці, першая судакрананні з вялікім, бязмежным светам роднай, нацыянальнай паэзіі. Але з крынічнай энергіяй сілкавала паэзію вялікага Коласа і Пухавіцкая зямля.

У вёсках, хутарах Пухаўшчыны сям'я народнага песняра ладзіла свае лецішчы на працягу многіх гадоў — і да Вялікай Айчыннай, і пасля, пачынаючы з 1946, ажно да самай смерці Канстанціна Міхайлавіча ў 1956 годзе. Вось назвы коласаўскіх паселішчаў Пухаўшчыны — Зайбелька, Вусце, Балачанка, Падбярэжжа, Беразянка... І, канешне ж, Талька — вёска і чыгуначная станцыя амаль што на самай мяжы Міншчыны і Магілёўшчыны.

Пра ўсе вёскі напісаны вершы. Усе — і Талька таксама — узгаданы ў многіх лістах Коласа да сяброў, знаёмых. У сваю чаргу і пухаўчане навяжыліся аддаваць даніну павагі, памяці славутаму волату беларускай літаратуры. Намаганнямі мясцовых улад у Тальцы на будынку чыгуначнага вакзала адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар трывалай повязі паэта з Талькай, пухавіцкімі вёскамі.

Удзел у святочным адкрыцці мемарыяльнай дошкі ўзялі старшыня Пухавіцкага райвыканкама Фёдар Супрун, загадчык аддзела культуры райвыканкама Яўген Сушко, дырэктар пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч. Вітаў удзельнікаў гэтай урачыстасці малодшы сын песняра, доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч. Наведалі Тальку ў гэты дзень і вядомы празаік Генрых Далідовіч, публіцыст Васіль Шырко.

Мажліва, услед за першай мемарыяльнай дошкай з'явяцца на Пухаўшчыне і іншыя знакі ўшанавання багатай літаратурнай і мастацкай гісторыі гэтай зямлі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# "ЗАЛАТЫ

***Трэці "Залаты шлягер" быў і падобны, і не падобны да папярэдніх. Тут ужо яўна прасочваюцца традыцыі, ёсць сталыя ўдзельнікі, ёсць... Але — пра ўсё па парадку.***

### У БОЙ ІДУЦЬ АДНЫ ДЗЯЎЧАТЫ

Гуманны сродак для рэанімацыі класічнага песеннага рэпертуару савецкага часу, конкурс маладых выканаўцаў (дзе абавязкова павінны гучаць два шлягеры — пажадана, напісаныя да 1970 года) з'явіўся на фестывалі летась. І, мяркуючы па водгуках фестывальных "старых", на гэты раз адбыўся заўважны якасны зрух у прафесійнай падрыхтоўцы. Хаця такіх мужчынскіх галасоў, як у леташняга ўладальніка Гран-пры Тэймураза Боджгуа, мы не пачулі. Увогуле, чатыры прадстаўнікі моцнага полу практычна не ўдзельнічалі ў барацьбе за месцы — толькі магіляўчанін Павел Усовіч атрымаў трэцюю прэмію (асабіста мне, праўда, больш запомнілася выкананне Гусейна Мамедава з Азербайджана і стыльнасць Сяргея Ізбаша з Расіі).

А ў сувязі з двума прадстаўнікамі беларускага боку, якія занялі трэцяе месца, узнікае пытанне аб стаўленні маладых выканаўцаў да абраных імі кампазіцый: "я" — для песні альбо песня для "мяне"? У засяроджанасці магіляўчанкі Вольгі Мельнікавай на абранай ёю вакальнай манеры магла б знікнуць кожная песня — гэтаксама, як і ў відавочным перабольшванні страснасці Жаржэты Паваразнюк (Малдова). А вось у чуласць расіянкі Ірыны Левінай у песні "Аляксей, Алёшачка, сынок..." верылася, і прадэманстраванны ёю ў другой песні ("Усё стала вакол...") вакал, не вельмі моцны, але які спалучае класічную пастаноўку з эстраднай разняволенасцю, пацвердзіў прыемнае ўражанне.



*Іскуі Абалян: "...І вечная вясна".*

У лідэры сярод канкурсантаў выйшлі, у рэшце рэшт, дзве згрaбныя дзяўчыны: Іскуі Абалян (Беларусь) — Гран-пры і Мая Каркарашвілі (Грузія) — І прэмія. Аспрэчваць справядлівасць гэтага рашэння журы, напэўна, нікому з публікі і ў галаву б не прыйшло — гэта былі сапраўды самыя яскравыя ўражанні падчас конкурсу. Нібыта рыба ў вадзе, купалася Мая ў пераліваx грузінскіх мелодый, а ў якасці дадатку да цудоўнага голасу яна прадэманстравала яшчэ і выдатную пластычнасць, скончыўшы сваё выступленне танцавальным эпізодам.

А Іскуі Абалян зрабілася ўсеагульнай улюбёнкай, атрымаўшы яшчэ і прыз глядацкіх сімпатый. Сапраўдная каралева ў атласнай суконцы (цалкам лагічна вырашыўшы, што менавіта такі касцюм варты яе рэпертуару), Іскуі сканцэнтравала ўвагу не на моцы голасу (хаця гэта таксама было), а на інтанацыі, на прыгажосці музыкі, на станоўчым эмацыйным ўражанні, закладзеным у песнях.

Малаваты, безумоўна, Магілёў, дзе Іскуі працуе ў абласной філармоніі, для яе таленту, але куды ж падзенешся без рэпертуару? Праставатыя, легкадумныя песенькі яна спяваць не хоча, ды і не можа дазволіць сабе пасля такой перамогі, а для запісу сур'ёзных кампазіцый не хапае сродкаў і тэхнічных магчымасцяў студыі, дзе яе муж працуе гукарэжысёрам. Але гэтае імя нам ужо запомнілася.

# ПАРТЫТУРА ПЕРАМОЖЦАЎ

Менавіта па восені аматары фартэпіяннага музычнага майстэрства чакаюць насычаных падзей у музычным жыцці нашай краіны, і зазвычай яны не памыляюцца ў сваіх спадзяваннях. Акурат па восені надараюцца падзеі "сусветнага гучання", як леташні міжнародны фестываль "Мінск. Фартэпіяна-96". Добрая традыцыя, распачатая ў годзе мінулым, працягваецца і сёлета: акурат на пачатку лістапада ў Мінску адбыўся Міжнародны конкурс юных піяністаў імя Ірыны Цвятаевай. Заснавальнік і арганізатар конкурсу — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, старшыня арганізацыйнага камітэта — Аляксандр Сцепанцоў, а праводзіўся ён пры садзеянні Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. У тым, што моладзь у нас вельмі таленавітая і здатная годна прадстаўляць музычную культуру на фестывалях сусветнага ўзроўню, можна было пераканацца падчас конкурсу, наведаўшы гімназію-каледж (былы музычны ліцэй) пры Беларускай акадэміі музыкі і залу Дзяржаўнай філармоніі, дзе адбываліся музычныя спаборніцтвы і заключны канцэрт удзельнікаў фестывалю. Менавіта тут з 1 па 7 лістапада гучала выбітная музыка Скарлаці, Чайкоўскага, Ліста, Шапэна, Рахманінава ў выкананні юных віртуозаў-піяністаў. На конкурсе былі маладыя прадстаўнікі фартэпіяннай школы з Украіны, Расіі, Латвіі, Малдовы, Польшчы — усяго 50 удзельнікаў. Міжнародны конкурс маладых меў вельмі прадстаўнічае і аўтарытэтнае журы: старшыня — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь прафесар Ігар Уладзіміравіч Алоўнікаў, у склад журы таксама ўваходзілі сусветна вядомыя дзеячы музычнай культуры Галіна Чэрны-Стэфаньска з Польшчы, Арніс Зандманіс з Латвіі, Вера Носіна з Расіі і гранды айчыннага музычнага майстэрства — Юрый Гільдзюк, Зоя Качарская, Уладзімір Кузменка, Вера Лагвіненка. Пасля першага тура слыннае журы было крыху разгубілася: замест дванаццаці да ўдзелу ў другім туры ў малодшай групе прыйшлі чатырнаццаць піяністаў; нечаканасць гэта тлумачылася вельмі высокім узроўнем падрыхтоўкі ўдзельнікаў. Нарэшце 6 лістапада сталі вядомыя імёны пераможцаў і лаўрэатаў. У старэйшай групе першая прэмія ўручана Дзмітрыю Анішчанку (Украіна), другая — Алесю Бабію (Беларусь), трэцюю падзялілі паміж сабой Ірына Сапожнікава (Украіна) і Аляксандр Дзяруга (Беларусь); у малодшай: 1-я — Данілу Шмянкову (Беларусь), 2-я — Вользе Сцехко (Беларусь), трэцюю падзялілі паміж сабой Мікалай Барба з Украіны, Аляксандр Касцючэнка і Надзея Моладава з Беларусі. Заахвочвальныя прэміі і дыпломы конкурсу ў старэйшай групе піяністаў атрымалі Анастасія Лук'яненка (Украіна), Аляксандр Баравікоў (Беларусь), сярод удзельнікаў малодшай групы імі ўзнагароджаны — Святлана Бандарэнка (Беларусь), Ліндэ Брэйдэ (Латвія), Анастасія Брокмілер (Расія).

Пры падвядзенні вынікаў былі ўручаны таксама спецыяльныя прызы конкурсу. Дарэчы, пра іх, як і пра фінансаванне конкурсу маладых дараванняў, паклапаціліся фундатары: Міністэрства культуры, таварыства "SOPRA" з Японіі, Мінскае абутковае адкрытае акцыянернае таварыства "Прамень", таварыства з абмежаванай адказнасцю "Сівельга", шклозавод "Нёман", дзяржаўнае выдавецтва "Юнацтва", творча-вытворчы цэнтр "Паліфакт", выдавецтва "Беларусь", закрытае акцыянернае таварыства "Мілавіца", арэнднае прадпрыемства Мінскі холадакамбінат. Прыз арганізацыйнага камітэта Міжнароднага конкурсу магнітола "Панасонік" уручаны Дзмітрыю Анішчанку (Украіна), прыз Саюза музычных дзеячаў Максіму Маручаку (Беларусь), прыз музычнай кампаніі Рэспублікі Беларусь — Надзеі Моладавай (Беларусь) і, нарэшце, "Прыз юнаму дараванню за перспектыву" — Святлане Бандарэнка (Беларусь). А наперадзе ў юных дараванняў сапраўды значныя перспектывы, бо ў 1999 годзе, як паведаміла нам намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта конкурсу Галіна Генрыхаўна Вагнер, зноў у нашай сталіцы чакаецца міжнародны форум фартэпіяннага майстэрства — "Мінск. Фартэпіяна-99". Хто ведае, магчыма, "зоркі" сёлетняга конкурсу загарацца і на небасхіле наступнага міжнароднага?

**Алена РЫГОРАВА**

# АДДАНАСЦЬ

***Юбілей — умоўнасць, якая прымушае чалавека згодна з традыцыямі азірацца на пражытыя гады, падсумоўваць вынікі. Дажыла да свайго юбілею і актрыса Брэсцкага тэатра драмы і музыкі Тамара Кірына. З гэтай нагоды карэспандэнт пагутарыў з артысткаю.***

**— Тамара Уладзіміраўна, больш за трыццаць гадоў вы аддалі сцэне. Не шкадуеце?**

— Я вельмі люблю сваю прафесію, нічога іншага рабіць не ўмею і не хачу, часам толькі шкадую, што здараліся ў маёй працы вымушаныя прастоі. Мой муж Сямён Сямёнавіч Церайкоўскі, рэжысёр і акцёр, часта стрымліваў мяне, маўляў, мы прыехалі ў новы тэатр, не спяшайся самасцвярджацца, дай спачатку замацавацца мне. Гады праляцелі. Цяпер я ўжо ў інакшай узроставай катэгорыі, хоць, канечне, усялякі ўзрост мае свае перавагі.

**— Вам часта даводзілася мяняць тэатры?**

— Я ездзіла разам з мужам, бо лічыла, што жанчына павінна цалкам аддаваць сябе сям'і. Спачатку мы працавалі ў тэатры юнага гледача ў Макееўцы. Пасля Сямёна Сямёнавіча накіравалі адкрываць новы тэатр у Днепрадзяржынску, пазней ён працаваў галоўным рэжысёрам у Чарнігаве. Пасля чарнобыльскай аварыі вырашлі пераехаць у Брэст. Прызнаюся, што я з першай сустрэчы палюбіла гэты горад.



*Тамара Кірына ў спектаклі "Драпежнікі".*

**— Чаму вы выбралі прафесію актрысы?**

— У школе я актыўна брала ўдзел у мастацкай самадзейнасці, спявала, чытала вершы, выязджала на ўсялякія канцэрты і злёты. Тады мы жылі на Данбасе. Аднойчы трапіла на рэспубліканскі агляд мастацкай самадзейнасці і, нікому нічога не кажучы, пайшла здаваць экзамены па майстэрстве ў Кіеўскі тэатральны інстытут. Мне пашанцавала, я паступіла.

**— Што азначае слова "пашанцавала" ў жыцці артыста?**

— Гэта шчаслівы выпадак, калі цябе своечасова заўважаць, дадуць ролю, у якой можна выказаць сваё разуменне жыцця і свету, свае ідэалы.

**— У такім разе раскажыце, калі ласка, пра свае любімыя ролі.**

— Адна з першых і незабыўных роляў была Катарына ў спектаклі "Утаймаванне свавольніцы", ролю Петручыо выконваў мой муж Сямён Церайкоўскі. Так атрымлівалася, што і на сцэне мы былі закаханаю параю. Ён цудоўны партнёр, з ім я заўсёды адчувала сябе ўпэўнена і спакойна. Падабаліся мне і такія ролі, як Дульсінея ("Дон Кіхот Ламанчскі"), Кацярына Ізмайлава ("Лэдзі Макбет Мцэнскага павета"), Мар'я Антонаўна ("Рэвізор"). З вобразаў, створаных на сцэне Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, магу вылучыць ролю Мамы ("Лаліта"), Лізаветы Багданаўны ("Месяц у вёсцы"), імператрыцы Кацярыны ("Любоў — кніга залатая"). Апошняя роля невялікая, складана было адшукаць чыста жаночыя якасці гэтага гістарычнага персанажа.

**— Як складваюцца вашыя адносіны з рэжысёрамі?**

— На жаль, у нашым тэатры няма сваіх рэжысёраў, а запрошаныя на адзін спектакль звычайна не ведаюць трупу, кожны раз мусіш даводзіць, чаго ты вартая. З удзячнасцю згадваю працу з рэжысёрам Вітаўтасам Грыгалюнасам, які даваў волю маёй акцёрскай фантазіі, прастору для спроб. Рыд Таліпаў, які паставіў у нашым тэатры "Месяц у вёсцы" па п'есе Тургенева, працаваў пераважна з пазіцыі дыктату, які належала выконваць акцёру. Але абодвух гэтых рэжысёраў яднала цудоўная якасць — яны любілі акцёраў, шанавалі іх гонар і годнасць.

**— Іншы раз даводзіцца назіраць страх артыста на сцэне. Ці наведвае гэтае пачуццё вас?**

— Не. Я выходжу на сцэну, быццам трапляю ў родную стыхію. Нават у час рэпетыцый мне не хапае гледачоў, на іх я магла б праверыць дакладнасць вобраза, які ствараю. Глядацкае ўспрыманне і ацэнка дапамагаюць мне рабіць маленькія адкрыцці, удакладняць асобныя дэталі. У працы мне вельмі дапамагае чытанне мастацкай літаратуры. Шмат якія ролі я стварала ад знешняга бачання, ад нейкай рысы, падгледжанай у жыцці, паступова паглыбляючы вобраз.

**— Пра што марыце, калі заглядваеце ў будучыню?**

— Сёлета ў трупу прыйшла мая дачка, актрыса Марыя Церайкоўская, я ціха радуюся гэтаму. А самая мая вялікая мара пра тое, каб ачуняў пасля цяжкай хваробы муж, каб усё было, як раней. Астатняе ў мяне ёсць: вопыт, жаданне працаваць, любімая трупа і цудоўныя гледачы.

**Зінаіда ДУДЗЮК**
*Брэст*

# ДВА ХВАСТЫ АДНАГО ЭКЗАТЫЧНАГА ЗВЕРА

У галерэі візуальных мастацтваў "NOVA" адкрылася экспазіцыя з серыі выстаў "Аспекты сучаснай нямецкай фатаграфіі", што ладзяць Інстытут імя Гётэ і Інстытут міжнародных сувязей. Фотаздымкі Франка Ціля запакаваныя ў браню са шкла, ствараюць уражанне, што вы патрапілі ў сярэднявечны замак. Помнікі Усходняга Берліна, турэмныя брамы — гэта свет які́м жыве мастак. Тут нараджаюцца ягоныя фантасмагарычныя ідэі. Даследчык мастацтва Утэ Эскільдсен заўважае: "Фатаграфія з'яўляецца для яго толькі адным з многіх выяўленчых сродкаў, на якім ён не хоча канчаткова спыняцца". Нешта ў гэтых працах ёсць парадаксальнае, бо, нягледзячы на энергію даўніны, яны нясуць да нас жорсткасць сучаснасці. Перад намі не проста архітэктура ў фотаздымках, а хутчэй фотаздымкі, што будуюць экстравагантныя вежы і палацы.




*Ф.Ціль. "Берлін-Цыргартэн". 1991.*

На новай экспазіцыі прадстаўлена каля дваццаці каляровых і чорна-белых прац. Мне падалося, што выстаўленае неяк распадаецца на дзве часткі — свет № 1 і свет № 2. Але бясспрэчна, што гэтыя часткі — два хвасты — органы аднаго арганізма.

Застаецца дадаць, што выстава будзе дэманстравацца да 7 снежня. Калі ў вас ёсць жаданне пабачыць экзатычнага звера, павандраваць па калідорах цьмянага горада, абавязкова зазірніце ў галерэю "NOVA".

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ШЛЯГЕР-97"

***"ТАКАЯ МАЛЕНЬКАЯ КРАІНА, А НАЛАДЖВАЕ ТАКІЯ ВЯЛІКІЯ ФЕСТЫВАЛІ"***

Напэўна, гэта адзіны фестываль, дзе ўзрост не з'яўляецца перашкодай, і сталыя гады не толькі не замінаюць удзелу ў ім, але і вітаюцца арганізатарамі. Эстрадны п'едэстал для "старых" і "малых" — вось што, спрошчана кажучы, сёння ўяўляе "Залаты шлягер".

З узроста́м жа звязана і некаторая парадаксальнасць у паводзінах выступоўцаў: часцяком людзі сталага веку паводзілі сябе больш гарэзліва, чым моладзь. Хаця гэта, мабыць, заканамерна. Але, далібог, Людміла Лядава, якая ўразіла залу сваім няўрымслівым тэмпераментам, выканаўшы некалькі са сваіх 800 песень, кранула душы слухачоў болей за маладзенькую канкурсантку, якая трымалася на сцэне, нібыта дама, стомленая сваім "багатым мінулым".

А Тамара Міянсарава, якая дзіцячым галаском звонка выводзіла "Хай заўжды свеціць сонца" — песню, што зрабіла яе пераможцай на Міжнародным фестывалі песні ў Сопаце ў 1963 годзе? Народная артыстка Расіі, прафесар Інстытута імя Гнесіных, у рэшце рэшт, старшыня журы конкурсу маладых выканаўцаў на "Залатым шлягеры", яна не выклікала захаплення.

Трэба было бачыць, як Гелена Веліканава, захаваўшы ў свае вельмі паважныя гады цудоўную постаць (відавочна, дзякуючы лыжам і плаванню), заклікала змагацца за спевакоў-пачаткоўцаў: "Маладых таленавітых выканаўцаў трэба падтрымліваць усімі магчымымі спосабамі. Калі ім няма дзе жыць — прыняць у сябе, няма чаго есці — згатаваць макароны з сырам, трэба зрабіць усё!" І, узгадваючы конкурс, які адбыўся нядаўна ў Крамлі, яна прызналася, што тут, на "Залатым шлягеры", кожны з вакалістаў быў мацнейшы за ўсіх "крамлёўцаў, разам узятых".

Аляксандр Колкер, усяляк падкрэсліваючы факт беларускага паходжання сваёй жонкі, спявачкі Марыі Пахоменка, пахваліўся навіною свайго творчага жыцця: 8 кастрычніка ў Маскве, у Дзяржаўным акадэмічным Малым тэатры адбылася прэм'ера ягонага мюзікла "Вяселле Крачынскага", дзе рэжысёрам і выканаўцай галоўнай ролі стаў Віталь Саломін.



*"Стары" Ларэці на плошчы Свабоды (туды, да Вечнага агню прыязджаюць маладажоны).*

Адзін з самых любімых усімі, руска-савецкі кампазітар Давід Тухманаў зусім па-хатняму ўсталяваўся на сцэне і спяваў свае песні таксама зусім "хатнім" голасам. Ягоную іронію з гэтай нагоды публіка падтрымлівала ахвотна: "Мне прыемна, што вам спадабаліся мае спевы, бо за музыку мяне і раней пахвальвалі". Цяпер ён жыве ў Кёльне, але творчае супрацоўніцтва моцна звязвае кампазітара з Расіяй.

Іон Суручану, папулярны выканаўца мінулых гадоў, цяпер — член парламента Малдовы, працуе ў Камісіі па культуры і на сцэну не выходзіць ужо шэсць гадоў. Задаволены прыёмам у Магілёве, ён абвясціў, што гатовы аднавіць канцэртную дзейнасць.

(Заканчэнне на стар. 12)

№ 46 22 — 28 лістапада 1997.

БЫВАЛЬШЧЫНА

# СМЯЯЦЦА НЕ ГРЭХ, АЛЕ... ІНШЫ РАЗ ПАКУТА

***Медыкамі ўжо даказана, што смех спрыяе здароўю. Праўда, іншы раз ён узнікае ў такіх абставінах, што можа стаць на нейкі момант чымсьці накшталт хваробы. Прыгадаю некаторыя выпадкі, калі я быў удзельнікам альбо сведкай гумарыстычных сцэн, што надарыліся на радыё, тэлебачанні і ў тэатры.***

Калісьці працавала на беларускім радыё Вера Шыбека, якая потым стала знакамітым дыктарам Усесаюзнага тэлебачання. Яна была там адной з лепшых вядучых інфармацыйных праграм аж да таго часу, пакуль на экранах чамусьці ўвесь дзень паказвалі незапланаваны балет "Лебядзінае возера". А вечарам Шыбека і яе партнёр Качаргін у праграме "Час" паведамілі, што адбыўся незабыўны славуты "путч" у краіне. Праз нейкі час гэтыя дыктары зніклі з экранаў у сувязі з адбыўшыміся пераменамі. А пазней, наогул, пайшлі ў нябыт усе былыя "любімцы" тэлегледачоў — дыктары, якіх ведалі і шанавалі.

Ну, а тады, даўно, мы з Верай даволі часта чыталі разам перад мікрафонам. І неяк давялося нам паведамляць слухачам аб'явы. Звычайна вопытныя дыктары не рыхтавалі загадзя гэтых не такіх ужо адказных, на іх погляд, перадач. Чыталі, як мы гаварылі, "з ліста". Я прачытаў нейкую невялічкую аб'яўку, а потым Вера пачала паведамляць аб тым, што ў цырку будзе выступаць група ліліпутаў пад кіраўніцтвам Качурынера. Няпростае гэта прозвішча было ў друкаваным тэксце напісана чамусьці ад рукі маларазборлівым почыркам, ды яшчэ з некаторымі праўкамі. І вось пачала Вера "адольваць" яго: "Качу.., Каручы, Качуры..." Ніяк гэтае слова ў яе не атрымлівалася. Я канешне ж не мог стрымаць смеху. А яна ўсё "змагалася", але так яго дакладна і не вымавіла. Потым выключыла мікрафон і з гневам і смехам выгукнула мне: "паразіт, пакіньце студыю". Я смяюся, але наступную сваю аб'яву неяк выціснуў з сябе. А вось партнёрша мая, бедалага, далей толькі і змагла працадзіць : "паважаныя бацькі, для вас адкрыты магазін"... І ўсё... Дзе той магазін, што там прадаюць — на гэта ўжо сіл не было. Выключылі мікрафон і літаральна "хворыя" з рогатам мы вываліліся ў калідор. Там нас сустрэлі вясёлыя супрацоўнікі, якія чулі нашы "незвычайныя" аб'явы. Потым пачалі званіць радыёслухачы. Адзін абураўся: "Чаму дыктарка так рагатала? Можа там партнёр яе за бок мацаў?" А нейкая жанчына з задавальненнем адзначыла, што ніколі не чула такіх натуральных паводзін дыктараў перад мікрафонам. Я ж, успамінаючы гэты выпадак, заўсёды гаварыў, што калі б за вакном у апаратнай з'явіўся старшыня Камітэта з накіраванай на нас стрэльбай, усё роўна, мы не змаглі б пераадолець стан хваравітага смеху.

Але самае цяжкае выпрабаванне выпала на маю долю. Калі я "выпусціў у эфір", як мы казалі, артыста, які расказваў у перадачы для дзяцей пра старадаўнія рускія імёны. Я ў той час часта слухаў пласцінку з запісам фрагмента са спектакля "Гарачае сэрца" ў выкананні артыстаў маскоўскага тэатра. Там быў персанаж — Серапіён Мардар'евіч. Па-руску яго называлі "Серапіён Мардар'іч". У мяне гэта было вельмі на слыху. Артыст, які, адчувалася, не надта падрыхтаваў свой тэкст, чытае надта павольна, нібы абмацвае кожнае імя і прозвішча. Я сяджу побач і



Вера Ропат.



Зінаіда Бандарэнка і Уладзімір Шэліхін.



Вера Шыбека.

чую, як ён вымаўляе: "Канкордзія, Еўлампія, Елікаіда". Потым імёны і па бацьку: "Сіла Ерафеевіч, Ніл Стратонавіч, Акакій Акакіевіч". Далей, працягваючы перад мікрафонам разбірацца ў складаных словах, чытае літаральна па складах: "Се-ра-пі-ён (коска) Мар-дар-е-віч (з націскам на гук "е".) Божа, ды гэта ж знаёмы мне Серапіён Мардар'іч. Смех вырваўся з мяне ў эфір істэрычным выбухам. Я забыўся, дзе знаходжуся. Артыст у жаху выключае мікрафон і шыпіць: "Ты мне перашкаджаеш!" Потым у тым жа стылі замілавання працягвае чытаць. Перадача ідзе пятнаццаць хвілін, а гэта здарылася на пятай! Я разумею безвыходнасць становішча, але нічога не магу з сабою зрабіць. Калачуся ад смеху і ўсё! Той — бедалага, не аднойчы выключаў мікрафон і заклікаў мяне да разумных паводзін, але дарэмна. Стаў я прыгадваць самыя сумныя моманты свайго жыцця. Быццам, пачынаю супакойвацца. А нейкі чорт нібы хвастом круціць і зноў нагадвае мне: "Мар-дар-е-віч". Не магу — гіну! І артыст побач пакутуе. Тады я пачынаю кусаць сваю руку. Не вельмі дапамагае. Давялося далей так сябе "грызці", што стала ўжо не да смеху. Але толькі гэта і выратавала. Праўда, потым доўгі час хадзіў са слядамі сваіх зубоў на руцэ. І ўсім расказваў пра іспыты, што напаткалі мяне. І зараз смяюся, прыгадваючы тую пакутлівую барацьбу з сабою.

Неардынарны выпадак здарыўся неяк летам, калі ў Мінску прайшоў такі лівень, што цалкам затапіў падземны пераход на плошчы Якуба Коласа. У гэты дзень адзначаўся не памятаю каляндарна які, але нейкі юбілей інфармацыйнай праграмы "Панарама" на тэлебачанні. Зранку свяціла сонейка, усё было нармальна, але паступова захмарыла і зададжджыла. Я сяджу за піяніна і "кайфую", іграючы любімыя творы. Час ідзе і дождж таксама. Праз вакно бачу рэкі, што залілі наваколле. Пачынаю думаць, як дабрацца да студыі. Але некалькі гадзін у запасе яшчэ маю. Выходжу з дому — мора па калена, хоць плыві. І няма навокал ніводнага аўто, каб злавіць і маліць давезці. Я ў адчаі. Раптам едзе каля пад'езда "хуткая дапамога". Убачыўшы мае звыштэмпераментныя маханні рукамі, шафёр спыніўся. Я з хваляваннем растлумачыў сітуацыю і паабяцаў шчодрую ўзнагароду за дапамогу. Дождж, здаецца, сціх, але "акіян" застаўся. І нашай "хуткай" давялося неаднойчы вяртацца, каб знайсці месца, дзе можна ехаць, а не плысці. І так доўга даводзілася рабіць аб'езды, што калі мы наблізіліся да студыі, я пачуў праз адчыненае вакно апаратнай, як мая калега Тамара Бастун пачала чытаць юбілейную панараму адна. (Яна жыве побач са студыяй.) "Дзякуй за дапамогу", — сказаў я шафёру, ададаючы яму грошы — але "хворы" ўжо памёр.. Праўда, кінуўся бягом рыхтавацца, і значную частку праграмы мы чыталі ўжо ўдваіх.



Марыя Захарэвіч і Уладзімір Шэліхін вядуць канцэрт па заяўках.

А раз такое было. Я дома чымсьці займаюся. Уключаю тэлевізар і бачу, што тая ж Бастун чытае "Панараму" адна. Адзначаю, што нават шыя ў яе напружылася ад хвалявання. Тамара Паўлаўна любіла чытаць без партнёра. Сачу з цікавасцю і (даруй мне Божа!) з нейкай зларадасцю думаю: "Во нехта ўжо не з'явіўся! Ну і атрымае". Тэлефаную ў дыктарскую і пытаюся ў калежанкі: "А чаму гэта Тамара адна чытае?" (Думаю, штосьці здарылася.) А яна мне ў адказ: "Таму што вы не прыйшлі". Вось яна плата за зларадства. Тут табе і за няўважлівасць да раскладу, і папярэджанне пра склероз, ну і спагнанне ж было, канешне. Але як каму раскажу пра гэты выпадак, дык і сам смяюся, не гаворачы ўжо пра слухачоў.

Ну, а па выступленнях у кадры з рознымі істотамі, дык мне здаецца — я чэмпіён. На студыі жыла калісь вялікая шэрая кошка. Яна была амаль членам калектыву. Нават у дзіцячым спектаклі ўдзельнічала. Іграла ролю кошкі, што драмала на канапе. Я сябраваў з ёю і іншы раз частаваў лівернай "сабачай радасцю". Тады чалавецтва яшчэ не вынайшла "віскасу". Калі ўзнікаў "аўрал" і ўсе беглі ў студыю, яна таксама ляцела. Аднойчы яе не пусцілі. Дык так за дзвярыма енчыла, што вырашылі пусціць.

Неяк іду чытаць праграму перадач. Увайшоў і пагладзіў сваю сяброўку, якая сядзела на высокім століку. Я ўжо быў у эфіры, калі ўбачыў, як яна скокнула ўніз і накіроўваецца да мяне. Чытаю і думаю: ну, пасядзіць яна як звычайна ў цяпле ад пражэктараў. Але не... Я ж ёй выказаў сімпатыю. Вось яна і вырашыла мне аддзячыць. І раптам скок перада мною на стол і мы абодва — у кадры. Можа, цяпер я б і не разгубіўся... Але ў тыя часы!..

Схіліўшы галаву, каб гледачы не бачылі, што я смяюся, працягваючы чытаць, сграбаю сваю сяброўку долу. Мне здалося, яна не магла ўцяміць, што са мною здарылася: заўсёды быў такі лагодны, ласкавы і раптам — на табе... Так і не падняўшы галавы, я неяк дагундосіў праграму, давячыся ад смеху. Каб быў у студыі адзін, дык мо лягчэй перанёс бы гэткую сітуацыю. Але навокал усе трымаліся за жываты. Пабег я ў тэхкантроль, каб прасіць не расказваць пра забаўную мізансцэну. Я ж разумеў, што сяброўцы яе незапланаванае выступленне дабра не прынясе. А там нічога не заўважылі. Значыць я нядоўга дазволіў шэрай супрацоўніцы быць у кадры. Але назаўтра я ўжо выслухаў захапленне ад выступлення нашага дуэта. Потым яна ўсё ж знікла. Сказалі, што адвезлі ў вёску.

І яшчэ "моцны зарад здароўя" давялося атрымаць таксама на тэлебачанні. Было гэта летам. У студыі ў час інфармацыйнай праграмы аказалася некалькі вялікіх сініх мух. Гэтага ні прадугледзець, ні прадухіліць ніхто не можа. Чытаеш. Большая частка выпуску прайшла спакойна, хаця некалькі "аблётаў" на адлегласці гэтыя істоты зрабілі. Але вось яны ўжо бліжэй. Сітуацыя ўскладняецца, хваляванне ўзмацняецца, а тэкст чытаецца. І тут адна з нягоднiц абрала аб'ектам пасадкі мой твар і ўжо збіраецца скласці крылы на маёй губе. Не магу дазволіць мярзотніцы адолець мяне. Пачынаю змагацца за сваю годнасць. А як можна змагацца з тымі, хто лётае? Махаць рукамі. Вось я чытаю і махаю. Тыя, хто былі ў студыі са стогнамі і енкамі ледзь не валяцца на падлогу. А побач яшчэ выпрабаванне — мая партнёрка Вера Ропат ляжыць галавой на стале і трасецца ад смеху. Усім можна, акрамя мяне. Да таго ж у яе свая бяда — слёзы пачарнелі ад фарбы. А ёй яшчэ пра надвор'е чытаць. На шчасце — ужо за кадрам. Не памятаю, ці абяцала яна дождж, але вільгаці было занадта...

Я ўсё ж перамог, не даў той нягодніцы сесці на мяне. Але назаўтра тэхкантроль напісаў заўвагу, што Шэліхін у кадры смяяўся і размахваў рукамі (гэта з маім узростам і стажам). Бягу туды, пытаюся:

— А вы муху бачылі?

Яна (тэхкантроль) — бачыла.

— Чаму ж не напісалі, што яна перашкаджала мне працаваць?

— Дык вы ж смяяліся.

— А вы лічыце, што можна было ўтрымацца ў гэтым царстве смеху?

Праўда, начальства, відаць, не пазбаўленае пачуцця гумару і разумеючы складанасць сітуацыі, мяне не пакарала. Не ведаю, ці даводзілася яшчэ каму-небудзь быць у кадры ў такіх смехатворна-выпрабавальных акалічнасцях.

А вось міні-кур'ёз. Чытаем вечарам "Панараму" з Зінаідай Бандарэнка, яна вітаецца першая і кажа: "Добрай раніцы". Я павінен таксама павітацца. Думкі замітусіліся з хуткасцю электроннай вылічальнай машыны. Калі скажу "Добрай раніцы", людзі падумаюць — абодва з глузду з'ехалі. Калі ж буду сцвярджаць, што ўжо "добры вечар", хтосьці з нас будзе мець рацыю, але партнёрка можа паскардзіцца, што не падтрымаў яе. Я ўсё ж вырашыў пацвердзіць ісціну і назваў вечар вечарам. Але паўзы не было аніякай. А колькі давялося перадумаць. Першыя інфармацыі было цяжкавата чытаць, а далей усё пайшло як трэба.

Цяпер некалькі забаўных акалічнасцей з тэатральнага жыцця. Ох, як нялёгка было артыстам тэатра Янкі Купалы, якія ігралі ролі маладых дзяўчат — Юзю, Зузю і Фрузю ў спектаклі "Дамы і гусары". Да іх па чарзе заляцаўся ваяка-афіцэр. І калі дзве дзяўчыны знаходзіліся ў глыбіні сцэны, а ён, апусціўшыся на калена, дамагаўся кахання трэцяй, абяцаючы "купіць ёй каня", на апошнім слове ў яго вываліліся ўстаўныя зубы і ўпалі на падлогу. Паненак як вецер знёс. Сцэна апусцела. Бедалага-артыст, павярнуўшыся спіной да залы, хутка уладкаваў на месца штучную дэталь свайго твару. Але рогат ужо панаваў паўсюль — і на сцэне, і ў зале. Кожная з чараўніц, па чарзе выглядваючы з-за куліс, не можа выйсці, бо трасецца ад смеху. Па сутнасці, такая мізансцэна адзначалася зайздросным рэалізмам: не варта імкнуцца з'есці забаронены плод штучнымі зубамі. Спектакль спыніўся. Сцэну закрылі заслонай, і спектакль узнавіўся, калі хваля ўзбуджэння сціхла, пасля працяглага перапынку.

І яшчэ адна забаўная гісторыя. У оперы. Спектакль "Рыгалета". Няшчасны гарбун, у якога ўкралі дачку, схаваўшы сваё гора, пытаецца ў прыдворных, як прайшла іх ноч. "Спалі мы спакойна", — адказалі тыя. Рыгалета павінен праспяваць далей фразу "Значит, мне всё приснилось". Але ён чамусьці маўчыць. Час ідзе... Тады ўсе вяльможы, апусціўшы галовы, каб ніхто не заўважыў, заспявалі: "Значит, мне всё приснилось". Вельмі ціха. Але іх жа многа. І атрымалася харавое выкананне партыі саліста. Публіка гэтага не заўважыла, а я не магу забыць камізму сітуацыі!



Тамара Бастун.

Так, смех у недазволены момант — гэта амаль хвароба. Сцэна і эфір — самыя страшныя абставіны для такіх выпрабаванняў. Затое потым гэтыя трагікамічныя выпадкі ўспамінаюцца з задавальненнем і іншых забаўляюць.

**Уладзімір ШЭЛІХІН**

## *Зоркі, што ўпалі ў нябёсы*

# ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ АЙСЕДОРЫ ДУНКАН

***У "Энцыклапедыі сусветнай кнігі", выдадзенай у Амерыцы, даволі дакладным дваццацідвухтомным выданні, пра яе напісана літаральна некалькі слоў, амаль столькі ж, колькі пра напаўлегендарнага нешчаслівага шатландскага караля Дункана (свет ведае пра яго па шэкспіраўскім "Макбеце"). Між тым лёс Айседоры Дункан не менш трагічны, чым лёс венцаноснага цёзкі. Але пачнем па парадку...***

***"Дункан, Айседора — амерыканская танцорка, якая мела значны ўплыў на танец у 1900-х. Выступала супраць жорсткай фармальнай падрыхтоўкі класічнага балета і стварыла індывідуальную форму пластычнага выражэння... Яе танец часцей за ўсё інспіраваўся літаратурай і класічнай музыкай, яна таксама выкарыстоўвала вобразы выяўленчага мастацтва, скульптуры... Нарадзілася ў Сан-Францыска, вялікі поспех мела ў Еўропе, дзе ўпершыню выступіла ў 1899... Жыла за мяжой большую частку свайго творчага жыцця, заснавала школы танца ў Францыі, Германіі і Расіі".***

...Яна нарадзілася на беразе Вялікага акіяна, шум хваляў быў акампанементам першых дзіцячых мараў. Мараў аб прыгажосці і чысціні старажытнай класічнасці. Маці яе выкладала музыку, бацька, што сышоў з сям'і адразу па нараджэнні Айседоры, быў паэтам і авантурыстам, як вынік — усе чацвёра дзяцей звязалі жыццё з мастацтвам. Айседора пачала наведваць школу з пяці гадоў, каб вырашыць ужо ў дзесяць, што атрымала дастаткова ведаў. З гэтага ўзросту і да апошніх дзён яна не вучылася, а вучыла — невядома як спасцігнуўшы прыгажосць гармоніі руху. "Ужо тады я была танцоркай і рэвалюцыянеркай". У адзінаццаць гадоў яна ўпершыню закахалася — у дарослага аптэкара, што наведваў яе ўрокі танцаў, — і гэта было першае звяно ў некароткім ланцужку любоўных прыгод, выпрабаванняў, шаленстваў. Яе кахалі паэты, мастакі, музыканты, банкіры, урачы, мужчыны без акрэсленых заняткаў, арыстакраты — у вялікім сэрцы танцоркі хапала цеплыні, і яна свядома пазбягала "кайданоў шлюбу": "Я дала абяцанне, што ніколі не прыніжуся да такога стану знявагі... Я ўглядвалася ў твары замужніх жанчын і на кожным адчувала пячатку рэўнасці і кляймо рабыні..." З пурытанскай Амерыкі яна збегла ў бурлівую Еўропу, праз Лондан, Парыж, Берлін, Вену даехала да Афін, радзімы свайго натхнення.

*Сведчанні сучаснікаў:*

*"У Вене я ўпершыню ўбачыла на сцэне Айседору Дункан. Яе танец прывёў мяне ў захапленне. Яна танцавала басанож, шмат працавала над сваім мастацтвам і цалкам ім авалодала. У сваіх танцах і позах яна выглядала дакладна як антычная статуя. Яе венскі вальс у чырвоным касцюме так мяне захапіў, што я нават ўскочыла на крэсла і пачала крычаць на ўвесь голас, выклікаючы яе..."*

***(Мацільда Кшэсінская, балерына)***

Айседора трапіла нарэшце ў атмасферу ўсеагульнага абагаўлення, яе прызнавалі тым, кім яна сама сябе лічыла — "рэвалюцыянеркай танца". Паступова аформіўся стыль "тэатра Дункан": вольная танцавальная манера, амаль імправізацыя, эмацыйная музыка, часам — зусім "не танцавальная" па мерках балета, напрыклад, "Марсельеза" ці нацыянальны гімн Аргенціны. Да гэтага ў дадатак — вельмі вольная вопратка, якая не стрымлівае рухаў, накшталт старажытнагрэчаскай тунікі, мяккія дываны на падлозе — каб танцаваць басанож, мяккае ж святло і драпіроўкі з тканін замест дэкарацый — каб нішто не адцягвала ўвагі гледачоў ад танца. Але галоўнае, што вабіла паклоннікаў, у той час яшчэ не атрымала фармальнага акрэслення. Сёння гэта прызываецца "сексапільнасць" ("sex appeal" — "сексуальны прызыў", з ангельскай). Своеасаблівая "аматарская" падрыхтоўка (замест жорсткага трэнінга прафесійных балерын) дазваляла ёй выкарыстоўваць прыродныя якасці,




жаноцкасць, як складнікі свайго мастацтва.

Між тым асабістае жыццё Айседоры не назавеш шчаслівым — лёс быццам помсціў ёй за надзвычайную незалежнасць, грэбаванне законамі прыроды. Яна нарадзіла двух дзяцей — дачку Дзідрэ ад ангельскага рэжысёра Гордана Крэга і сына Патрыка ад Парыса Сэнжэ, ці Зінгера, з сямейства вядомых прамыславікоў Зінгераў, вынаходнікаў швейнай машынкі. Абое дзяцей трагічна загінулі 19 красавіка 1913 года — аўтамабіль, што іх вёз, зваліўся ў Сену. 1 жніўня наступнага года, у дзень, калі пачалася першая сусветная вайна, яна нарадзіла хлопчыка, дзіця выпадковага спаткання з італьянскім юнаком, скульптарам — яно пражыло некалькі гадзін. Ёй засталося толькі яе мастацтва, якому яна ўпарта марыла навучыць дзяцей — ужо не сваіх. Першая спроба заснавання школы была ў Берліне, у 1905 годзе, на ўласны кошт. Зразумела, з гэтага мала што атрымалася. У 1914 годзе ў Парыжы спроба паўтарылася, на гэты раз на грошы мільянера Зінгера — але вайна не дазволіла зрабіць тое, чаго жадала Дункан. Яна марыла выхоўваць пераемнікаў у атмасферы прыгажосці і прагі да прыгажосці, яна марыла, каб не гімнастыка была галоўным у навучанні танцу: "пра цела трэба забыцца, яно — толькі інструмент, які павінен быць проста добра настроены".

*Сведчанні сучаснікаў:*

*"... Гастралюючы ў Расіі ў 1905, 1908, 1913, 1919 гадах, Айседора Дункан зрабіла велізарны ўплыў на фармаванне славутага балетмайстра Міхаіла Фокіна. Ён пачаў выкарыстоўваць у сваіх пастаноўках не толькі балетную музыку, але і творы камернага, сімфанічнага рэпертуару. Фокін у сваіх спектаклях на антычныя сюжэты адышоў ад жорсткіх канонаў класічнага балета, разняволіў цела артыстаў, зрабіў іх больш выразнымі, ужываючы натуральную пластыку вольнага танца Дункан."*

***(Алег Сталінскі, танцоўшчык)***

Яна казала: "Я — вораг балета, які, на маю думку, з'яўляецца ілжывым і абуральным мастацтвам, лічу нават, што ён ляжыць наогул па-за межамі мастацтва. Але цяжка не апладзіраваць казачнай лёгкасці Кшэсінскай, якая пырхала па сцэне і была болей падобная да дзівоснай птушкі ці матылька, чым да чалавека... Нягледзячы на тое, што гэтыя танцы супярэчаць усялякаму артыстычнаму і чалавечаму пачуццю, я не магла ўтрымацца ад апладзісментаў чароўнай Паўлавай... На сняданні ў доме Паўлавай я пазнаёмілася з Сяргеем Дзягілевым і ўступіла з ім у гарачую спрэчку аб мастацтве танца, якім я яго разумела ў супрацьстаўленні балету..."

*Сведчанні сучаснікаў:*

*"Айседора нанесла непапраўны ўдар класічнаму балету імператарскай Расіі..."*

***(Сяргей Дзягілеў, імпрэсарыо)***

...Поспех, што ішоў побач са скандальнай славай, не задавальняў яе. Адзінота — не асабістая толькі, творчая





адзінота — абуджала мары аб уласнай школе. (Тым больш, што некалі выкладанне было "сямейным бізнесам", пэўная дзелавая хватка ёй была ўласцівая, як кожнаму амерыканцу.) Спробы стварэння школ уласнага, "рэвалюцыйнага" танца ў Францыі і Германіі яе не надта задаволілі, яны абапіраліся на фінансавую дапамогу "прыватных інвестараў", уласна — заможных прыяцеляў, таму і апора гэтая здавалася ненадзейнай. Іншая справа — дзяржаўны ўзровень. І вось вясной 1921 года Айседора атрымала запрашэнне ад Савецкага ўрада: "...Рускі ўрад — адзіны, хто можа Вас зразумець. Прыязджайце да нас, мы створым Вашую школу". Прапанова была прынята Айседорай з энтузіязмам. Летам яна разам з прыёмнай дачкой Ірмай была ў Маскве. "Я думала, што назаўсёды развітваюся з еўрапейскім ладам жыцця. Я бачыла, што ідэальная дзяржава, якой яна ўяўлялася Платону, Марксу і Леніну, цудам ажыццявілася на Зямлі. Расчараваўшыся ў спробах здзейсніць у Еўропе свае мастацкія ўяўленні, я рыхтавалася ўступіць у ідэальную дзяржаву камунізму..." — пісала Дункан. Ідэйна, прафесійна яна даўно ўжо эвалюцыяніравала ад анёльскіх прыгажосцяў псеўдаантычнага танца да пластычнай філасофіі жыцця, яна танцавала цалкам Пятую сімфонію Бетховена, Сёмую і "Няскончаную" Шуберта, вялікія цыклы з твораў Шапэна і Ліста і марыла аб тым, каб танец быў сродкам выхавання новых людзей. "Я ўцякала ад мастацтва, цесна звязанага з камерцыяй... Няма такой позы, руху ці жэста, якія былі б прыгожыя самі па сабе, усялякі рух толькі тады прыгожы, калі ён праўдзіва і шчыра перадае пачуцці і думкі. Лінія прыгожая, калі яна накіравана да прыгожай мэты... Калі вы навучыце чалавека цалкам валодаць сваім целам і будзеце яго практыкаваць у выказванні высокіх пачуццяў, ... гэта адаб'ецца выхаваўча на ягонай свядомасці, на душы". Наркам асветы Луначарскі, які і запрашаў Айседору, аднак, не дазволіў ёй працаваць у сістэме Усянавуча. Яна вымушана была зноў абмежавацца маштабамі школы, адначасова шырока выступаючы на савецкіх сцэнах (часцей за ўсё, бясплатна), напрыклад, на сцэне Вялікага тэатра ў чацвёртую гадавіну рэвалюцыі, дзе яна станцавала "Інтэрнацыянал", "Славянскі марш" і Шостую сімфонію Чайкоўскага. Там яе, дарэчы, бачыў правадыр сусветнага пралетарыяту і ўхваліў крыкам "Брава, міс Дункан!" (Ілля Шнэйдэр. "Успаміны")

Пад школу Дункан быў перададзены асабняк балерыны Балашовай (якая з'ехала за мяжу) на Прачысценцы. Яна марыла аб тысячах навучэнцаў — ёй прапанавалі ўмовы для 40. Да гэтага ў дадатак быў створаны і апякунскі савет амаль такой жа колькасці. У школу былі набраны дзеці ва ўзросце ад 4 да 10 гадоў, "пераважна — дзеці рабочых". Ад першапачатковых 100, што прайшлі конкурс, праз год засталося і наогул 20. Дзеці апраналіся ў асобую форму, на выступленні і "агітпаездкі" выязджалі на вялікім чырвоным аўтобусе "Лейланд" з надпісам "Вольны дух можа быць толькі ў разняволеным целе. Школа Дункан".

Зноў Дункан мела толькі невялічкую студыю, дарэчы, з непазбежнымі бытавымі праблемамі, пагоршанымі пасляваеннай разрухай. Невыпадкова яна пачала шукаць разумення і прыяцельства ў мастацкіх згуртаваннях рознага, часцей авангарднага, кшталту. На адной з вечарын сустрэлася з чарговым, бадай што найбольш трагічным сваім каханнем. Раман і шлюб — адзіны у яе жыцці фармальны, афіцыйны! — з Сяргеем Ясеніным аказаўся на доўгі час у цэнтры ўвагі і сучаснікаў, і нашчадкаў. Двое вельмі своеасаблівых, імпульсіўных, нястрыманых у пачуццях і ўчынках людзей, па назіраннях, стваралі дзіўную, недарэчную пару. "Гэтая вядомая жанчына, услаўленая тысячамі эстэтаў Еўропы, тонкіх цаніцеляў пластыкі, побач з маленькім, як падлетак, разанскім паэтам з"яўлялася канчатковым увасабленнем усяго, што таму было не патрэбна". (М.Горкі) Дункан вывезла Ясеніна ў Еўропу і нават у Амерыку, арганізавала сумесныя, вельмі скандальныя, выступленні, падчас якіх на свой лад агітавала за камунізм. "Камунізм з'яўляецца адзіным выйсцем для свету!" — гэтай непразарлівай фразай яна заканчвала кожнае інтэрв'ю. Айседора ў выніку згубіла амерыканскае грамадзянства, Ясенін апусціўся ў вір хандры і п'янства, што пазней у рэшце рэшт прывяло яго да самагубства. Калі яны вярнуліся ў Расію, Дункан сказала:"Вось я прывезла гэтае дзіця на ягоную Радзіму, але ў мяне няма больш нічога агульнага з ім..." У 1923 годзе летам і восенню Дункан праехала з выступленнямі па поўдні Расіі і па Закаўказзі, была ў Крыме. Уражанні ад паездкі былі цяжкія, не толькі таму, што гэта быў час канання адносінаў з Ясеніным, але і таму, што Айседора ўбачыла шмат студый "паслядоўнікаў", якія на самой справае засвоілі ад Дункан толькі басаногасць, хітоны ды драпіроўкі, забыўшыся ці не зразумеўшы галоўнага — прастаты і праўдзівасці, натуральнасці танца Айседоры. Вярнуўшыся ў Маскву, яна спрабавала яшчэ працаваць, зрабіла цыкл "танцаў рэвалюцыі" — рускай, французскай, ірландскай, кітайскай, які быў сустрэты прыязна ўсюды, дзе выступала школа Дункан. Аднак яна ўжо патроху пачала разумець відавочнае: яе школа і яе танцы ў Расіі — адзін з культуралагічных эксперыментаў маладой дыктатуры, пошук сродкаў уздзеяння на шырокія масы народа. Відавочна было і тое, што яе мэта — разняволенасць чалавечага духу праз разняволенасць цела — ніяк не сумяшчальная з мэтамі гэтай дыктатуры. Айседора выехала ў Еўропу, як бы часова, на пошукі сродкаў. Але там, у Парыжы, у снежні 1925 года яе напаткала тэлеграма аб самагубстве Ясеніна. (Дарэчы, яе студыя ў гэты час была на гастролях у Мінску.) Яна спрабавала ўзяць прыклад з яго, зайшоўшы ў мора ў Ніццы, яе выратавалі. Яна закахалася зноў, зноў жа ў маладога рускага, піяніста, што збег ад рэвалюцыі, — той збег і ад яе. Яна пачала пісаць мемуары — здавалася б, заўчасна, яшчэ не дажыўшы да пяцідзесяці, але, як потым аказалася, вельмі своечасова.

Кніга пад малаарыгінальнай назвай "Маё жыццё" была выдадзена ў 1927 годзе і засталася бадай што адзіным дакладным сведчаннем незвычайна бурлівага, разнастайнага, шалёнага жыцця прамаці сучаснага танца. Яна заканчвалася фразай: "Бывай, Стары свет! З'язджаю ў Новы!", ахоплівала час дакладна да паездкі ў Савецкую Расію і вытрымала сотні перавыданняў на дзесятках моваў свету. Айседора планавала і працяг, але планы не ажыццявіліся. 15 верасня 1927 года, накінуўшы чырвоны кітайскі шаль з жоўтай птушкай і блакітнымі кветкамі, яна села ў маленькую гоначную машыну, каб пакатацца. Машына была моцная, хуткая, і канец даўгога шаля ў адзін момант накруціўся на кола, Айседора была імгненна задушана. Натоўп, што хлынуў на месца здарэння, разарваў шаль на кавалачкі, як толькі аслабанілі безжыццёвае цела... Мэр Ніццы забараніў хаваць яе там на той падставе, што сярод папер Айседоры знайшлася заява на савецкае грамадзянства. Яе пахавалі ў Парыжы, на могілках Пер-Лашэз. Не ведаю, ці ёсць эпітафія на помніку, але ёй маглі б стаць уласныя словы танцоркі, "рэвалюцыянеркі", Жанчыны Айседоры Дункан: "Дабрадзейныя людзі — толькі тыя, хто не мае досыць спакусаў, таму што жыве раслінным жыццём..."

*Сведчанні сучаснікаў:*

*"Танцы Люа Фулер (Loie Fuller, таксама амерыканская танцорка "натуральнага" напрамку. — **І.К.**) і Айседоры Дункан навучылі нас любіць прыгажосць цела, руху і жэсту."*

***(Агюст Радэн, скульптар)***

*"Яна выпусціла танец у наш свет у цвёрдай упэўненасці, што чыніць вялікае і шчырае..."*

***(Гордан Крэг, рэжысёр)***

**Ігар КЛОКАЎ**



ПАСЛЯ БАЛЮ

# “ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР-97”


Тамара Міянсарава: “...Я сама прайшла праз столькі конкурсаў!”

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5.)

Рэнат Ібрагімаў, прадэманстраваўшы свой голас, што захаваўся даволі добра, падзяліўся сваімі назіраннямі: “У апошні час фестывальнае жыццё пачало ажываць. Да прыкладу, аднавілася правядзенне фестывалю “Крымскія світанкі”, прайшоў тэлефестываль “Мелодыі Расіі”. І дзякуй Беларусі — такая маленькая краіна, а праводзіць такія вялікія фестывалі, як “Славянскі базар” і “Залаты шлягер”. На адным з канцэртаў ён рызыкнуў зрабіць эксперымент: падключыў да выканання знакамітых “Жоўтых лісцяў” самых маладых удзельнікаў фестывалю — вакальную групу “Жывая вада” з Іванава. І атрымаўся цудоўны ансамбль!

Анне Вескі ўсяляк “забаўлялася” з публікай, а потым прызналася: “Аказваецца, я ў наступным годзе таксама буду святкаваць 20-годдзе на сцэне. І песні “Круты паварот” — таксама амаль 20 гадоў. Такім чынам у намінацыі “Залаты шлягер” яна ўжо можа ўдзельнічаць”.

Вадзім Мулерман, з пэўнага часу “наш амерыканскі сябар” (ён цяпер жыве ў Нью-Ёрку і Фларыдзе, дзе кіруе музычным дзіцячым тэатрам), дадаў свежы “колер” да шматнацыянальнай фестывальнай дзеі: “Тут прагучалі песні на рускай, беларускай, грузінскай мовах, чаму б не праспяваць па-гебрайску?” І сапраўды, праспяваў.

А вось Эдзіта П'еха на “Залаты шлягер” не прыехала — у сувязі з цяжкім захвораннем мужа. Але гасцінныя магіляўчане спадзяюцца сустрэцца з ёй праз год.

### “СТАРЫ ЛАРЭЦІ НАС ПАВІНШАВАЎ”

За свае 50 гадоў ён аб'ездзіў ці не ўвесь свет — калісьці хлопчык-цуд Раберціна, а цяпер — салідны, маладжавы і тэмпераментны “сіньёр Ларэці”. Цалкам натуральна, што на фестывалі “Залаты шлягер” ён быў “асобай № 1”.

Натуральна, журналісты хадзілі натоўпам за сіньёрам Ларэці і ён ставіўся да гэтага даволі прыхільна. Таму прэса атрымала адказы на многія з зададзеных яму пытанняў. З той прычыны, што італьянскага госця паўсюль суправаджаў ягоны імпрэсарыо Пол Давыдоўскі (ураджэнец Кіева, у 1975 годзе пераехаў у Амерыку), дык усе адказы Раберціна і каментары да іх зыходзілі ад Пола.

**— Сіньёр Ларэці, колькі разоў вы былі ў Расіі?**

— Першы раз ён наведаў СССР у 1989 годзе па запрашэнні Міхаіла Гарбачова. Ён быў у чатырох гарадах Расіі і Украіны, у тэатры эстрады адбыліся шэсць ягоных канцэртаў. Тое, што ён раней быў у Расіі, — гэта мана, гэтаксама, як маной з'яўляецца і тое, што ён страціў голас.

**— А чаму вы раней не прыязджалі?**

— Раней былі фінансавыя цяжкасці — тут жа ганарары малыя, а ў іншых краінах — значна большыя. Але цяпер, зрабіўшыся заможным чалавекам, Раберціна можа ехаць і за малыя грошы дзеля свайго задавальнення.

**— Хадзілі чуткі пра тое, што вы былі ў Крамлі на прыёме ў Хрушчова.**

— Гэта таксама мана. У Крамлі мы былі падчас святкавання 850-годдзя Масквы па запрашэнні Ельцына, там быў і Лукашэнка, і іншыя прэзідэнты. Юрый Лужкоў пытаецца ў Раберціна: “Памятаеш, як мы сустракаліся ў Рыме?” А той — не памятае. Так яны і пазнаёміліся. А з Хрушчовым яны сустракаліся ў Рыме на прыёме шмат гадоў таму, і тады Мікіта Сяргеевіч бласлявіў хлопчыка, і потым пра гэта пісалі ўсе газеты.

**— Ці ведалі вы што-небудзь дасюль пра Беларусь?**

— Не вельмі шмат, бадай, нічога.

**— А якія ўражанні засталіся ад канцэрта?**

— Хаця Мінск — сталіца, але там быў кепскі гук. А ў Магілёве было значна лепш — іншы гук, іншая аура.

**— Акрамя кружэлкі, выдадзенай у нас, ці ёсць у вас яшчэ якія-небудзь запісы?**

— Гэтых кружэлак быў выдадзены 51 мільён. Ва Усходняй Еўропе — 36 мільёнаў, і за іх спявак не атрымаў ні капейчыны. Раберціна пакрыўдзіўся за гэта на Расію — ён жа не ведае, што не толькі яму — нікому не плацілі. (Пол — ад сябе). На ягонай радзіме — усё інакш: я маю каля трыццаці выданняў ягоных запісаў.


Рэнат Ібрагімаў.

**— Распавядзіце трошкі пра вашу сям'ю.**

— У яго была вялікая небагатая сям'я. Дзяцей было восем, Раберціна — пяты. Адзін з братоў памёр, а астатнія браты і сёстры цяпер маюць сем'і і ўласны бізнес.

**— Ваша любімае свята?**

— Раберціна — веруючы чалавек, таму — Раство.

**— Распавядзіце пра ваша захапленне конным спортам.**

— Гэта не захапленне — гэта ягоная другая праца. У Італіі гэтаму надаецца вельмі вялікая ўвага, для багатых людзей задавальненне — удзельнічаць у скачках, рабіць стаўкі. Калі мы былі ў Маскве, дык аднойчы зрабілі стаўку ў конным забегу, і Раберціна з ягоным цудоўным веданнем коней атрымаў каля 10 мільёнаў рублёў. Сам ён мае 10 коней, якія сістэматычна ўдзельнічаюць у гарадскіх забегах.

**— А з чаго складаецца музычная дзейнасць сіньёра Ларэці?**

— Ён працуе ў начным клубе, ездзіць з канцэртамі, калі няма выступленняў — працуе на тэлебачанні. Але не вельмі шмат, бо займаецца коньмі.

**— У чым, на вашую думку, адрозненне нашай публікі ад італьянскай?**

— Тут людзі вельмі ўважлівыя, тут больш развітыя духоўныя традыцыі. Раберціна звярнуў увагу на дзяўчынак з Іванава (група “Жывая вада”), яму вельмі спадабалася іхняе выкананне “Джамайкі”.

### БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА БУДЗЕ ПРАРАСТАЦЬ РЭГІЁНАМІ

Магілёў, здаецца, здзівіў усіх гасцей з далёкага — і не вельмі — замежжа. Удзячная і цярплівая публіка — гэта з'ява некантралюемая і проста прыемная. А вось увага гарадскіх уладаў — прадмет павагі і нават зайздрасці артыстаў, якія здзіўлена адзначалі задавальненне ад стасункаў з гаспадарамі. А чулі яны прыблізна наступнае.

***Начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення культуры М.Дарашкоў:***

— Гэта не проста настальгія, гэта — своеасаблівы пратэст супраць навязвання таго тэле- і радыёсурагату без мелодыі і сэнсу. Моладзь пачынае разумець сваіх бацькоў, дзядуль і бабуль і, магчыма, гэта — першыя крокі на шляху аднаўлення сувязяў пакаленняў, што разбураюцца на нашых вачах, вяртанне да сапраўднай прыгажосці.

***Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама, старшыня аргкамітэта “Залатога шлягера” Я.Касцюковіч:***

— Галоўнае дасягненне фестывалю — тое, што людзі зразумелі і прынялі яго як сваё роднае, сваё мінулае, сваё сёння і заўтра. І ад гэтага на душы ў мяне, ва ўсіх, хто наладжвае “Залаты шлягер”, прыемна і ўзнёсла.

***Міністр культуры Беларусі А.Сасноўскі:***

— Журналісты часта пытаюцца ў мяне, як ставіцца горад Мінск да таго, што Магілёў паступова робіцца другой культурнай сталіцай? Я адказваю, што вельмі добра. Сёння практычна кожны абласны горад мае сваю культурную візітоўку.

Увесь горад дапамагаў фестывалю: зала Палаца культуры тэкстыльшчыкаў “Хімвалакно” была яму аддадзена на шэсць дзён бясплатна, гарадскія прадпрыемствы, аблвыканкам і гарвыканкам аддалі на гэты час свае аўтамабілі: “Волгі” — для салістаў, “РАФы” і “Газелі” — для калектываў. Арганізавана сёлета праходзіла і ўручэнне кветак выступоўцам: была прызначана галоўная “кветачніца” Тацяна Гардзянкова, былі падабраны групы тых, хто падносіў кветкі, а самі букеты складаліся ў кветкавым салоне “Капюшон” — па матывах беларускага лесу, поля, восені.


Людміла Лядава: “Як кажа мой калега кампазітар: “Мае песні — як хачу, так спяваю”.

“Сэрца” ж “Залатога шлягера” — Магілёўская абласная філармонія, якая “заварыла” фестывальную “кашу”, забяспечвала арганізацыю гэтага складанага механізма. У апошні час імя дырэктара філармоніі Уладзіміра Браілоўскага стала ўсім вядомым, і ўсё часцей самыя разнастайныя канцэрты і фестывалі адбываюцца з удзелам Магілёўскай абласной філармоніі. Таму немагчыма было не папытацца ў аднаго з яе кіраўнікоў, а менавіта — у ***намесніка дырэктара Аляксандра Шабаліна:***

**— Магілёўская філармонія зрабілася магутнай арганізацыйнай структурай. Ці згодны вы з гэтым?**

— Ну, магутнасць яе — у якасцях яе людзей, бо штаты нашы не такія і вялікія. Ёсць у нас арганізаванае прадстаўніцтва ў Мінску, там добрыя адміністратары — былыя музыканты, якія выконваюць велізарную працу. Пачынаючы з мінулага года ў філармоніі арганізаваны фестывальны аддзел, які складаецца з трох чалавек. Усе фестывалі ў Магілёве абслугоўвае наша філармонія, а паралельна ідзе нармальная канцэртная дзейнасць.

**— А грошай у вас не болей за іншых?**

— Не болей. Нас падтрымлівае і Міністэрства культуры, і аблвыканкам, але пачынаецца ўсё — адсюль.

***Уладзімір Браілоўскі:***

— Скажу колькі словаў пра рэзервы і планы нашага фестывалю на будучыню. Напрыклад, музыка і кіно, акцёры, якія спяваюць, класічны джаз, аркестры і ансамблі, што


Давід Тухманаў.

суправаджалі дэманстрацыю фільмаў у кінатэатрах. Шмат цікавых сустрэч абяцаюць нам і Амерыка, і Францыя, і Італія, і Балгарыя, і Польшча, і Ізраіль — з артыстамі, імёны якіх выклікаюць хваляванне.

Сярод ганаровых гасцей “Залатога шлягера” было нямала прадстаўнікоў прэстыжных фестываляў і конкурсаў. А адзін з іх, прэзідэнт фестывалю “Славянскі базар” і прэзідэнт еўра-азіяцкай Асацыяцыі фестываляў Сяргей Віннікаў прывёз радасную вестку: на чарговай асамблеі Асацыяцыі быў падпісаны мемарандум, згодна з якім “Залаты шлягер” цяпер уваходзіць у шэраг такіх фестываляў, як “Залаты Арфей”, “Залаты алень”, “Голас Азіі”, “Славянскі базар”.

### ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ

Не памылюся, калі скажу, што чарговы “Залаты шлягер” будуць чакаць мноства самых розных людзей. І, упэўнена, праз год нас зноў сустрэнуць сюрпрызы — без гэтага фестываль ужо немагчыма сабе ўявіць.

**Ганна АЛАДАВ**
**Фота Алега ФАЙНІЦКАВА**


Вадзім Мулерман: “...А праз год да нас, у Амерыку”.

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.
Падпісана ў свет 20.11.97. у 18.00.
Замова 6945
Друкарня выдавецтва “Беларускі Дом друку”. 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.